PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (1996) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 14 ЖНІЎНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*На пляжы ў Дайлідах.*

## БЕЛАСТОК ПАД ПАРУСАМІ

Пляж у Беластоку-Дайлідах, вуліца Пляжова, канец аўтобуснай лініі н-р 15. Надвор'е пякельнае, 35 градусаў у цяні. Уражвае нязлічоная колькасць аматараў загарання і купання. У касе прададзена білетаў на 18 мільёнаў. Гэта абазначае, што 4 тысячы чалавек заплацілі за ўступ на тэрыторыю раскошы.

— Пастаянна ўрываюцца праз дзіркі і недачыненыя брамачкі тыя, якія не хочуць плаціць 10 тысяч за білет. Смешна выглядаюць сямідзесяцігадовыя бабулі, якія трывожна пралазяць праз немалы плот. Калі такую злавіць, тады тлумачыць, што яна скача „сабе так". Калі накрыеш малышоў (а гэта пераважна бедныя дзеці), тады застаўляеш іх збіраць паперы, мыць лодкі, — гаворыць кіраўнік базы, Марэк Ліпскі. Ён як малады і энергічны гаспадар марыць зашчапіць беластачанам моду на парусны спорт (żeglarstwo). З верасня будуць нават адкрыты курсы для яхтсменаў. Паводле яго, у Беластоку гэты від адпачынку яшчэ не дацэнены, але зараз дадае, што „żeglarstwo to nie jest sprawa dla mięczaków".

Нават пры ўваходзе на пляж красуе шыльда кіёска „Pod żaglami".

Аднак перайшоўшы браму спадзяванага раю, мне не давялося пабачыць „białostockich twardzieli". Пляж напамінаў найхутчэй калонію марской жывёлы, якая выпаўзла на сонейка, пагрэцца. Нягледзячы на ўказанні лекараў аб шкодным уплыве ультрафіялетавых праменняў, цела побач цела ружавелі на д'ябальскай патэльні за 10 тысяч злотых. Многія прыйшлі цэлымі сем'ямі. Нярэдка невінаватыя дзеткі з-за сонечных udараў траплялі ў бальніцу. Гэтыя ж сем'і папрыносілі з сабой усе „неабходныя" прадметы — столкі, столікі, крэслы, тэлевізары, усю хатнюю жывёлу — катоў, сабак. Замучаных жарой сабак цягнулі за сабой у ваду, дзе іх мылі і мылі. Механічнай звычкай сталася бязвольнае абжорства. Калі я праз гадзіну назірала за аматарамі яды, то таксама дастала звярыны апетыт. У такіх месцах, як пляж, варта прыдумаць спаборніцтва тыпу „хто з'есць найбольш катлетак".

Нярэдка сустрэць тут можна паклоннікаў выпіўкі: п'яніц усялякіх тыпаў — ад дзядзькі з чырвоным носам па бананавага жуліка. Асабліва піўцо ў іх у пашане.

Ї хаця побач платныя і акуратныя прыбіральні, персанал базы безупынна „на нагах". А колькі гэтага багацця расплываецца ў час раскошнага плавання?

Праўда, на тэрыторыі базы алкаголь не прадаецца. Мабыць, традыцыя наказвае без гарэлкі тут увогуле не з'яўляцца. А потым ратаўнікам трэба вылаўліваць выпівохаў, бо нехта топіцца, а паклоннікі сонца не ўміраюць з нудаў. На пляжы працуе 8 ратаўнікоў. Варта адзначыць, што на працягу 2 гадоў ніхто тут не ўтапіўся. Калі прывесці жахлівую агульнакраёвую статыстыку (ужо 900 чалавек утапіліся ў самым толькі ліпені), то беластоцкія ратаўнікі сапраўдныя малайчыны.

Вялікая колькасць дзядзькоў вудзіць рыбу. Ваду кожныя 2 тыдні даследуе санэпідстанцыя. Некаторыя заўважаюць, што вада час ад часу набывае зялёны колер. Спецыялісты паясняюць, што гэта няшкодная з'ява — квітненне вады.

Уражвае мяне вялікая колькасць смецця, якое пакідаюць па сабе аматары сонца. Усюды, а асабліва ў навакольных карчах, валяюцца пластмасавыя бутэлькі, пушкі, паперы, падкладкі, а нават майткі. На тэрыторыі пляжа ў 8 пунктах можна купіць напіткі, марожанае, цыгарэты.

Можа задумацца таксама бедная пенсіянерка, чаму якраз аж пад бераг вадасховішча можа пад'ехаць камфартабельная машына з нямецкай рэгістрацыяй. Адтуль хвацка выскокваюць таўстапузыя дзядзькі з маладзенькімі паненкамі. Яны яшчэ ўключаюць самую папулярную на Беласточчыне музыку „disco-polo" і прымушаюць усіх слухаць.

Пляж — гэта асаблівае месца. Чалавек чым больш лянівы і сонны, тым больш тут саноўны. Усім выпадае тут быць лянівымі і санлівымі, паводзіць сябе так, як робіць гэта сусед збоку. Людзі маюць таксама моду цешыцца з усяго.

— O Jezu, jak mi dobrze, — гаварылі амаль усе, якія хаваліся ў хвалях. Ї тое, што на сонцы было 50 градусаў, было нязвыклае. На дадатак здарыўся эпізод, які больш цешыў, чым хваляваў. Абакралі глуханямую пенсіянерку, якая была прымушана вяртацца дахаты ў купальным касцюме. Адчайную цётку адвезлі на паліцыйнай машыне.

Аматары сонца будуць мець тэму для гутарак на доўгія лянівыя гадзіны.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

## ЧАЦВЁРТАЯ ГАДАВІНА

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аб'явіў дэкларацыю аб суверэнітэце Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі. Новая дзяржава неўзабаве прыняла назву Рэспублікі Беларусь. Дзень 27 ліпеня быў вызначаны святам беларускай дзяржаўнасці.

Па-рознаму гаворыцца і пішацца пра суверэнітэт і незалежнасць Беларусі, тым не менш трэба сказаць катэгарычна, што ў гэты раз Маці Гісторыя была для нас вельмі ласкавая. Незалежнасць аб'явіла савецкае прадстаўніцтва савецкага народа. Грамадства зусім адізаляванае ад нацыянальнай мовы і культуры ў агромнай большасці не было зацікаўленае ніякімі палітычнымі зменамі. Ї раптам — нечаканая незалежнасць. Ці ж гэта не ласкавасць лёсу?

Нягледзячы на спробы растэрмінаванага продажу гэтай дзяржаўнасці некаторымі палітыкамі, яна ўсё існуе і ўсё паказвае на тое, што існаваць будзе.

Калі 25 сакавіка 1918 г. упершыню Беларуская Рада аб'явіла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, была гэта толькі дэкларацыя волі вялікай часткі народа. Ні ўнутраныя, ні вонкавыя фактары не стваралі ніякіх шанцаў заіснавання суверэннай беларускай дзяржаўнасці.

Не мае вялікага значэння факт, што сучасны суверэнітэт з'явіўся дзіцём савецкага парламента. Свет даведаўся пра існаванне беларускай дзяржаўнасці, а з савецкага маналіту вырвалася забытая нацыя. Беларусь мае цяпер свае дыпламатычныя прадстаўніцтвы на ўсіх кантынентах і паводле права існуе як незалежная дзяржава.

Магчыма, што ў будучыні наступныя пакаленні беларусаў больш станоўча ацэняць рашэнне Вярхоўнага Савета ад 27 ліпеня 1990 г., але і сёння гэтая дата не ёсць ужо абыякавай у жыцці грамадства Рэспублікі. Нацыянальным святам не з'яўляецца ўжо гадавіна бальшавіцкай рэвалюцыі, але гадавіна развітання Беларусі з Савецкім Саюзам. Калі праіснуе яшчэ нейкі час беларуская дзяржаўнасць, будуць магчымасці больш спакойна і разважна ацаніць гэтую дату.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

P.S. Ад некалькіх тыдняў на будынку парламента замест сярпа і молата віднее герб Рэспублікі Беларусь „Пагоня". Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка гаворыць пра сяброўскія адносіны з Расеяй, пра аб'яднанне фінансавых і эканамічных сістэм і, адначасна пра захаванне суверэнітэту. Але як усё гэта мае выглядаць на практыцы — невядома. Калісь дэпутат Лукашэнка галасаваў супраць белавежскага пагаднення аб ліквідацыі СССР. Незалежная Беларусь, дзякуючы свайму існаванню, дала яму шанц стаць прэзідэнтам. Час пакажа, ці першы прэзідэнт будзе гарантам канстытуцыйнага ладу і незалежнасці Беларусі.

## БУРМІСТРА БЕЛЬСКА ЗНОЎ НЕ ВЫБРАЛІ!

Сесія Гарадской рады 1 жніўня пачалася хвілінай маўчання ў гонар загінуўшых у Варшаўскім паўстанні. Яшчэ колькі хвілін адышло на прывітальнае слова старшыні Самаўрадавага сейміка Беластоцкага ваяводства Мячыслава Янушэўскага і можна было брацца за працу. Парадак пасяджэння не выклікаў ніякіх засцярог. Галоўным яго пунктам быў зноў выбар бурмістра горада.

Адзіным кандыдатам на гэту пасаду, як і на папярэдняй сесіі, быў Міраслаў Галэмбёўскі. Прачытаў ён сваю праграму — становіча задоўга — адказваў на пытанні радных, між іншым, ці быў у партыі і чаму ў час ваеннага становішча школе, у якой ён працаваў, было прысвоена імя маршала Ракасоўскага. Як вядома, найбольшай правіцай Ракасоўскага, — паводле аднаго раднага з кааліцыі „Jedność” — было тое, што ў польскім войску зліквідаваў рагатыўкі (канфедэраткі).

І толькі перад самым галасаваннем, калі выбарчая камісія падымалася з месцаў, слова ад імя ўсяго клуба „Jedność” узяў радны Мар'ян Лучай. Сваю прамову скіраваў ён, галоўным чынам, да публікі: „Мы паважаем дэмакратычныя працэдуры, паважаем волю выбаршчыкаў. Змірыліся мы з тым, што будзем у апазіцыі, але хочам быць канструктыўнай апазіцыяй, а не толькі статыстамі. Хочам, каб наша месца ў структурах улады горада было ясна вызначанае. Калі адносна гэтага не дагаворымся, не будзем прымаць удзел у выбарах бурмістра. Толькі ў такі спосаб можам выказаць свой пратэст. Без нас, панове, бурмістра не выбярэце!”

Апошні сказ быў ужо скіраваны ў бок Бельскай кааліцыі, якой, каб самастойна выбраць бурмістра не хапае аднаго голасу.

У сувязі з працягам байкоту выбарчая працэдура вяртаецца да свайго пачатку, г. зн. да вылучэння кандыдатаў.

Кааліцыя „Jedność” заявіла, што ва ўсіх астатніх пунктах працы Рады ўдзельнічаць будзе. Але 1 жніўня на няўдалым выбары бурмістра ўсё так і закончылася. Знерваваныя (а яшчэ такая гарачыня) радныя Бельскай кааліцыі прагаласавалі прапанову раднага Гушча, каб спыніць пасяджэнне. Не выбралі ні камісій рады, ні іх старшыняў. Такім чынам наступіў — трэба спадзявацца, што кароткачасовы — параліч дзейнасці Гарадской рады Бельска.

На заканчэнне яшчэ можа не вельмі істотная, але, улічваючы бельскія рэаліі, цікавая вестка. Міраслаў Галэмбёўскі з'яўляецца адзіным каталікам у Бельскай кааліцыі.

М. В.

## Святкавалі ў Варшаве

27 ліпеня ўжо другі раз Беларускае пасольства ў Польшчы арганізавала прыём з нагоды дзяржаўнага свята незалежнасці. Гаспадаром сустрэчы быў надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгій Таразевіч. Апрача палітыкаў і дыпламатаў было запрошаных некалькі беларускіх пісьменнікаў, дзеячоў і прадпрымальнікаў з Польшчы. Хаця была васемнаццатая гадзіна пасля абеду, у Варшаве было 35 градусаў цяпла. Ніякая, аднак, тэмпература не знімае ў элегантным свеце абавязку насіць пінжак і гальштук. Таму нават касавокія дыпламаты выглядалі так, як бы хтосьці выліў ім вядро вады на галовы. Сакрат Яновіч, які таксама трымаў форму, выглядаў як дэраш падчас ворыва глеістай зямлі. Літры тоніку і мінеральнай вады ледзь паспявалі разносіць афіцыянткі. Больш высакародныя напіткі ў гэты раз знаходзілі менш аматараў.

Гасцей, сярод якіх быў міністр замежных спраў Польшчы Анджэй Аляхоўскі, прывітаў пасол Георгій Таразевіч, які расказаў таксама пра сэнс святкавання гадавіны абвяшчэння незалежнасці. Міністр Аляхоўскі, побач гаспадара, быў асобай, якая прыцягвала найбольшую ўвагу ўдзельнікаў сустрэчы. Не траціў часу і старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Пётр Крук, які паспеў правесці размовы з пaслом Таразевічам, міністрам Аляхоўскім, шэфам Найвышэйшай кантрольнай палаты Лехам Качынскім, міністрам Лехам Фаляндышам і дарадчыкам прэм'ер-міністра Ежы Купінскім. З увагі на спякоту, размовы паміж запрошанымі гасцьмі вяліся ў памяшканні пасольства і ў двары навокал будынка. У адной з дыскутуючых групаў свае палітычныя думкі выказваў пасол Сейма III Рэчыпаспалітай Сяргей Плева. Беларускія дыпламаты і польскія ўраднікі маглі даведацца з прамовы Плевы, у чыіх руках павінна быць „Ніва”, хто арганізуе беларускае культурнае жыццё ў Польшчы, якім г... з'яўляецца „Басовішча”, якая з беларускіх арганізацыяў ёсць зборышчам „апаломаў”. Проста — найвышэйшы ўзровень палітычнай думкі! Дыскусіі працягваліся, пакуль сонца не пачало хавацца дзесьці за гарызонтам. Тады першыя госці пачалі збірацца да выхаду, дыпламатычныя аўтамабілі рушылі з піскам колаў па асфальце, а іх пасажыры маглі ўрэшце расшпіліць верхні гузік сваёй кашулі.

Я. М.

## Спякота

Нават найстарэйшыя людзі не памятаюць такой спякоты, якая ў ліпені і на пачатку жніўня ахапіла Польшчу. 37 градусаў у цені, а на сонцы — звыш пяцідзесяці. Нават у ваду немагчыма схавацца, бо ў рэчках і азёрах напамінала яна цёплы суп. Беластоцкія мяшчане таўпой уцякалі ў абы-якую калюжыну. Над штучным залівам у Дайлідах на беразе — мурашнік. У густой, бруднай, мутной вадзе столькі людзей і сабак, што няма нават магчымасці прайсці, каб не зачапіцца за чыесьці адстаючыя грудзі ці задняя пукатасці. Толькі там, дзе глыбіня дасягала звыш двух метраў, можна было паспрабаваць плаваць. Тэмпература вады ў апошні дзень ліпеня — 28 градусаў — не дае таксама магчымасці ахаладзіць цела. На беразе не паставіш босай нагі на пясок. Сахара!.. Мяшчане льюць у свае горлы літры розных напіткаў, думаючы толькі, як схавацца ад спякоты.

У сялян сітуацыя больш складаная. На выпаленых сонцам лугах і пашах бадла рыкам дамагаецца вады, а ў некаторых калодзежах асталося толькі балота. На полі бялеюць непрапарцыянальна малыя аўсы. Жыта вырасла як трэба, але толькі сяляне маюць адвагу ісці да жніва. Гарадскія сваякі, якія найчасцей леткам успамагалі бацькоў, дзядоў, братоў, швагроў падчас жніўных прац, сёлета недзе прапалі над берагамі рэчак ці азёраў. Хапіла ім успомніць, як звязваць снапы жыта ці ячменю, калі было толькі 25 градусаў цяпла, каб шукаць усялякіх прычын і не паехаць у сваю родную вёску. А дрэнна думаюць нашыя мяшчане. Бульба, якую цяпер купляюць на базарах па 7 тысяч за кілаграм, пэўна яшчэ падаражэе. На месяц раней сохне не толькі бульба, але таксама цукровыя буракі і ўся гародніна. Гаспадары не будуць мець прыбытку, а ў гарадскіх крамах морква ці пятрушка можа быць даражэйшая, чым бананы і апельсіны.

Ужо цяпер у некаторых вёсках сяляне думаюць чым пракарміць жывёлу, а гэта абазначае, што малако і мяса таксама не будуць таннае. Паслядоўнасці сёлетняй засухі праўдападобна яшчэ будуць адчуваць жыхары вёсак і гарадоў. Добра ж будуць успамінаць толькі тыя, у каго былі грошы і магчымасць паехаць адпачываць на мора ці возера. Але рай заўсёды даступны толькі для меншасці.

ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ

## ЛЁН

Лён быў калісь на вёсцы вельмі важнай раслінай; яго апрацоўвалі ў кожнай гаспадарцы. Гаспадары сеялі яго для жонак сваіх, якія потым выраблялі з яго многа рэчаў неабходных у вясковай хаце. Сеялі слізкае, бліскучае насенне і, калі лён падрастаў, палолі яго, а калі вырас і даспеў, тады вырывалі і абівалі з насення. Пасля яго мачылі, рассцілалі на расе і, калі вырасіўся, збіралі. Потым сушылі і церлі на церніцах, далей трапалі і часалі. Зімою, вечарамі і цэлымі днямі пралі. Калі быў спрадзены, вывівалі і на сноўніцах снавалі, а пасля навівалі на кросны, накідалі ў ніцальніцы і бёрды і ткалі палатно. З гэтага палатна пасля шылі сарочкі, нагавіцы і ўсё, што было патрэбнае ў сялянскай сям'і. А з ільнянога насення рабілі алей, ды такі, што цяперашні рафінаваны не дакажа. А хто меў многа насення, той прадаваў яго яўрэям. У аднаго купца была вялікая бочка і ў яе сыпалі купленае льняное насенне. Бочка была высокая і, калі цэлую насыпалі, хацеў ён тое насенне ўтаптаць. Залез у бочку і ўжо назад не вылез: утапіўся ў насенні.

Сёння пра лён забылі, а маладое пакаленне нават не ведае, як гэты лён расце.

А. БАРТАШЭВІЧ

## РАДАВОД ПЕРАМОЖЦЫ

У дзвюх маіх публікацыях у „Ніве” наконт Фестывалю музыкі Маладой Беларусі „Басовішча” пайшла інфармацыя, што гурт „Брага” з'яўляецца бельска-беластоцкай фармацыяй. Калі глядзець па паходжанню ўдзельнікаў гурту „Брага” — няма тут ніякай недакладнасці. З другога боку, аднак жа, радавод музычнага гурту ў сучасным свеце вызначае спонсар, якім у гэтым выпадку з'яўляецца

**Гмінная ўправа ў Гарадку**

**і Гарадоцкі асяродак культуры.**

У гэтым кантэксце гурт „Брага” трэба лічыць

**гарадоцкай фармацыяй.**

За брак такой інфармацыі прашу прабачэння ва ўсіх зацікаўленых.

С. ПЕЎНІК
vel А. МАКСІМЮК

## З мінулага Крынак

Першыя ўпамінанні аб Крынках адносяцца да першай паловы XV стагоддзя. Пасяленне ўзяло назву ад тамашніх крынак, значыць крыніц. У 1434 годзе кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла сустрэўся ў Крынках з вялікім князем літоўскім Зыгмунтам Кейстутовічам. Гэта быў вялікі палітычны факт таго часу, які прынёс дагэтуль невядомай мясцовасці вядомасць — пісаў свайго часу ў артыкуле „Месту” Крынкі 400 год (1569—1969 г.г.) ” Сакрат Яновіч (гл. „Беларускі каляндар на 1969 год”). Падчас сустрэчы абодва манархі аднавілі палітычную і мілітарную унію паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім. Тут мела месца таксама ўрачыстае аб'яўленне Кейстутовіча вялікім князем літоўскім і гэтую радасную вестку павязлі з Крынак каралеўскія і княжацкія слугі на Літву і ў Польшчу.

У XV стагоддзі Крынкі былі ўжо значным паселішчам. Тут затрымліваліся купцы на вялікім шляху з Гродна цераз Адэльск у Бельск і далей у Брэст. У 1509 годзе кароль Зыгмунт I дае герб „месту Крынкі”, а крынчане называюцца мяшчанамі.

У 1540—1560 гадах узнікла большасць цяперашніх вёсак у шырокім Крынкаўскім наваколлі. Былі ўжо Гаркавічы, Кнышэвічы, Сукавічы, Вярхлес і Азяраны, званыя асоцка-стралецкімі вёскамі, якіх абавязкам было і пільнаванне Крынкаўскай пушчы, і — у выпадку Азяраняў — дапамога ў княжацкіх ды каралеўскіх паляваннях. Малыя Азяраны, званыя таксама Новікі, лічыліся прыгоннай вёскай, а Рудакі і Начэвічы каля Плябанаўцаў — уласнасцю плябана Крынкаўскай каталіцкай парафіі, заснаванай Зыгмунтам I у 1522 годзе (царкву пабудавалі раней, бо ў 1505 годзе).

Крынкі мелі таксама свой „залаты век”, калі разрасліся да значнага гарадскога цэнтра. У лістападзе 1569 года кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Аўгуст даў Крынкам магдэбургскія гарадскія правы — і герб Ільва. З гэтага часу жыхары Крынак лічыліся каралеўскімі мяшчанамі, людзьмі вольнымі, падпарадкаванымі войту і бурмістру. Войт у той час быў прадстаўніком інтарэсаў дзяржавы, а бурмістр — інтарэсаў горада.

У 1679 годзе Крынкі мелі два рынкі і 13 вуліц, да „места” належала 166 валокаў зямлі. Пражывалі тут 144 мяшчанскія сем'і, у іх ліку 35 рамеснікаў (найбольш — 15 — шаўцоў). Зменшэнне колькасці насельніцтва адбылося ў выніку шведскага нашэсця.

Неабходна дадаць, што ў фармаванні тадышняга аблічча Крынішчыны вялікую ролю адыгралі такія фактары: не дайшло да збудавання сеткі цэркваў, бо тады ўжо быў моцны націск рымска-каталіцкай палітыкі і другі — у добраўпарадкаванні тутэйшых зямель прымаў удзел мнагаліці балцкі элемент. Яшчэ зараз гэты апошні фактар знаходзіць адлюстраванне ў празвішчах балта-літоўскага паходжання, як Кішкель, Карвель, Радэль, Скроўба, Шаціла, Дандзіла, Трэйга, Загроба. Неславянскія назвы маюць вёскі: Шудзялава, Нятупа, Трайглі, Сакалда, Уснар.

Дагэтуль захавалася даўняя форма (XVIII стагоддзе) горада з шасцікутным рынкам, ад якога ва ўсе бакі прамяніста ідуць вуліцы.

Каля 1840 года ўзнікаюць у Крынках першыя тэкстыльныя мануфактуры, затым у 1860 годзе — вялікая мануфактура Ліпхарта. Аднак рукадзельная праца перастала аплачвацца ў выніку ўвядзення ў прадукцыю паравых машын. У той час — пачынаючы з 1880 года — калі мануфактуры абанкруціліся, у Крынках на іх месца паявіліся гарбарні. Пажар у 1886 годзе знішчыў значную частку мястэчка.

Пасля трэцяга падзелу Рэчыпаспалітай, а дакладна ў 1797 годзе Крынкі страцілі гарадскія правы (аднавілі іх у 1919 годзе). У Крынкаўскай парафіі дзейнічалі ў пачатку XIX стагоддзя царкоўна-прыхадскія школы.

Да першай сусветнай вайны Крынкі былі амаль 10-тысячным мястэчкам. У гарбарнях працавала каля 3 000 рабочых.

У 1931 годзе ў мястэчку пражывала 5 786 асоб. З прыходам фашысцкіх акупантаў перастала існаваць школьніцтва. У вайну Крынкі былі знішчаны ў 70%. З зямлёю быў зраўнаваны цэнтр горада і большасць гарбарняў. Уцалелі ўсяго ўскраіны мясцовасці.

У 1950 годзе Крынкі паўторна страцілі гарадскія правы. У сямідзесятыя гады была аднооўлена гарбарная прамысловасць, у якой займаецца шмат людзей. У 1965 годзе мястэчка налічвала каля 2 800 жыхароў, а ў 1980 годзе — 3 000. З помнікаў старадаўнасці захавалася, між іншым, парафіяльная царква з 1864 года.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА 1920 ГОДА

Цяжка пішацца ў жару, што расплаўляе мазгі. Зробіш крок і потам абліваешся. Нават думаць не хочацца. Усё-такі адсвяткавалі 27 ліпеня, Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Свята яшчэ свежанькае, яшчэ з ім не звыкліся, таксама зрэшты, як і з самай незалежнасцю. Ĭ прэзідэнт Беларусі новенькі, невядома чаго ад яго чакаць. Першы крок ужо зрабіў. На менскім Доме ўрада замяніў серп ды молат Пагоняй. Скажа нехта, што з таго. Усё-такі, у такую жару падумаў і зрабіў, а іншым і ў больш спрыяльнае надвор'е дык пальцам кіўнуць не хацелася.

Калі так спакойна, амаль непрыкметна, праходзіць Дзень незалежнасці, мне як гісторыку даводзіцца корпацца ў паперах, якія гавораць аб іншым леце, гарачым ад гарматняга агню, леце, аблітым потам і крывёю. Тады, у дваццатым годзе праз Беларусь туды і сюды маршыравалі аграмадныя арміі, якія вырашалі будучыню Беларусі. На жаль, беларускай арміі сярод іх не было.

На пачатку ліпеня 1920 г. у Менску чакалі ўжо бальшавікоў, а хто чакаць не хацеў, той уцякаў. Большасць усё-такі чакала, бо палякі ўжо абрыдлі. Усе іхнія абяцанні аказаліся маной. Беларускія незалежнікі рыхталіся нават да паўстання, якое мела выбухнуць 10 ліпеня.

Тым часам на пачатку месяца, пад ударам чырвоных войскаў Тухачэўскага, палякі ўцяклі з Менска так хутка, што ніхто з беларускіх незалежнікаў нават і адумацца не паспеў. Хто ўцёк з палякамі, а хто чакаў далейшага ходу падзеяў.

31 ліпеня чарговы раз была абвешчана ў Менску БССР, якая ні ўладаў, ні сваёй арміі не мела. Былая Беларуска-Літоўская армія, цяпер XVI-ая, уваходзіла ў склад войск Заходняга фронту. Яго камандзір, М. Тухачэўскі, заўважыў, што Беларусь поўніцца людскім матэрыялам. Але тыя людзі не збіраліся ваяваць. Каб прымусіць прызыўнікоў і дэзерціраў з'явіцца ў часцях, былі прынятыя надзвычайныя сродкі. Змаганне з дэзерцірствам вялі спецкамісіі ад цэнтральнага да дывізійнага ўзроўняў у арміі і павятовага — на тылах. Камандаванне Заходняга фронту стварыла кантрольныя пункты на вузлавых чыгуначных станцыях: у Смаленску, Полацку, Віцебску, Оршы і Гомелі ды стварыла спецатрады (напрыклад, у 15 арміі было іх 18), якія мелі затрымоўваць жаўнераў і дэзерціраў. Абвешчаны быў таксама тыдзень добраахвотнага вяртання дэзерціраў у шэрагі, непаслухмяных расстрэльвалі.

Рэпрэсіям паддаваліся таксама сем'і дэзерціраў, тэрытарыяльныя ўлады і насельніцтва мясцовасцяў, з якіх яны паходзілі. Насілена была таксама агітацыйная, прапагандавая і выхаваўчая дзейнасць.

Уся гэтая акцыя прынесла надзвычайныя вынікі. Да пачатку ліпеня ў войскі Заходняга фронту ўлілося 70—100 тысяч людзей. Улічыўшы тое, што Заходні фронт і ў 1919 годзе папаўняўся перш за ўсё беларусамі, выходзіць што беларусы састаўлялі аграмадную большасць жаўнераў Тухачэўскага, каля 2/3.

Войскі Тухачэўскага не затрымаліся на мяжы Беларусі, як раней планавалася. Бачачы іх вялікія поспехі, бальшавіцкія ўлады рашылі заваяваць Польшчу і панесці полымя рэвалюцыі ў глыб Еўропы.

У палове жніўня адбылася Варшаўская бітва, адна з вырашаючых бітваў у сусветнай гісторыі. Непасрэдна на Варшаву ішла XVI-ая (колішняя Беларуска-Літоўская) армія М. Салагуба. Самыя жорсткія бaі на прадмесці Варшавы завязаліся вакол мястэчка Радзымін. 13 жніўня Радзымін узялі часці 21 пермскай дывізіі з 3-ай арміі У. Лазарэвіча (дарэчы, ураджэнца Беластока). На другі дзень прыйшла ёй на падмогу 27 дывізія XVI-ай арміі.

Польскае камандаванне кінула ў контрнаступленне сваю Літоўска-Беларускую дывізію, якая пасля поўдня адбіла Радзымін. Усё-такі, праз некалькі гадзін, 27-ая стралковая дывізія выбіла з горада Літоўска-Беларускую дывізію. Гэта прымусіла польскае камандаванне кінуць пад вечар у бой 10 дывізію ген. Жалігоўскага.

Баі за Радзымін гэта самы напружаны момант абароны Варшавы. З абодвух бакоў біліся ў ёй ураджэнцы Беларусі, бо з іх набіраліся рады як Літоўска-Беларускай, так і 27 дывізіі.

Асновай Літоўска-Беларускай дывізіі былі фармаванні польскай Самаабароны Літвы і Беларусі. У 1919 і 1920 гадах у яе рады ўступіла шмат беларусаў, якія думалі, што гэта менавіта ёсць беларускае войска, якое абяцаў стварыць Я. Пілсудскі.

Яшчэ цікавейшая гісторыя 27 дывізіі. У яе склад уваходзілі палкі фармаваныя ў 1918 г. у Беларусі: менскі, невельскі, аршанскі і гомельскі атрад.

Летам 1918 г. савецкае камандаванне рашыла паслаць беларускія палкі супраць збунтаванага чэхаславацкага корпуса. Жаўнеры беларусы, якія гатовы былі змагацца за вызваленне бацькаўшчыны ад немцаў, не мелі ахвоты падацца на ўсход. На пачатку жніўня аршанскі, невельскі і беларускі конныя палкі паднялі паўстанне ў Оршы. Збунтаваныя палкі далі адпор карнай экспедыцыі з Віцебска, здабываючы адзін з яе двух бронецягнікоў. Толькі на другі дзень бунт быў задушаны карнымі атрадамі з Віцебска і Смаленска.

Такім чынам беларускія палкі былі адасланы на ўсходні фронт, дзе яны ўвайшлі ў склад 27 дывізіі, прычым менскі, невельскі і аршанскі палкі стварылі асобную Беларускую брыгаду.

За Уралам беларусы прайшлі ў баях з Калчаком 6 тысяч кіламетраў, праз Златауст, Чэлябінск, Омск, Новасібірск і спыніліся толькі ў вярхоўях Енісея і на мангольскай мяжы.

Пад канец ліпеня 27 дывізія была перакінутая на Заходні фронт. Менскі полк адзначыўся асабліва падчас фарсіравання Буга. Тройчы кідаліся байцы ў раку пад агнём польскай артылерыі, пакуль не прайшлі броду.

Ĭ так, у палове жніўня на акрываўленых вуліцах і палях Радзыміна сустрэліся нарэшце землякі. Менскі полк супраць менскага палка, усе свае, „паны" і „хамы", дык б'юцца ўпарта. Камандзіры з абодвух бакоў таксама свае, літоўска-беларускія, Люцыян Жалігоўскі ад палякаў і Вітаўт Казімеравіч Путна ад бальшавікоў.

Варшаўская бітва скончылася паражэннем бальшавікоў. Пілсудскі выканаў славуты „манеўр з-над Вепжа", якім прымусіў войскі Заходняга фронту адступіць ад Варшавы. Вельмі дапамог у гэтым Пілсудскаму Іосіф В. Сталін, які насуперак загадам павярнуў I конармію Будзённага на поўдзень, далей ад Варшавы.

У палове жніўня пачаліся польска-савецкія мірныя перамовы, спярша ў Менску, пасля ў Рызе. Інтарэсы БССР прадстаўляў у іх шэф савецкай дэлегацыі А. Іофе. Пасля паражэння пад Варшавай Іофе прапанаваў палякам ваенна-палітычную нічыю: межы Польшчы на лініі Керзана і стварэнне беларускай буржуазнай дзяржавы, якая сама па сабе хілілася б да Польшчы. Пасля гатовы быў нават аддаць Польшчы Беларусь. Палякі таксама былі за нічыю ў гэтай вайне, але ўяўлялі яе крыху інакш і прапанавалі падзел Беларусі. На тым і стала.

Калі задумацца над вынікам вайны, робіцца цяжка на душы. Паловы гэтай энергіі, якую выдаткавалі ў той час беларусы на змаганне за перамогу сусветнай рэвалюцыі або за Польшчу „ад мора да мора", хапіла б на пабудову беларускай дзяржавы. Рыга была вынікам Радзыміна. Мала хто памятае сёння аб тым, што як бальшавікі прадавалі ў Рызе беларусаў, якія змагаліся на іхнім баку, так палякі прадалі сваіх паноў і падпанкаў з Меншчыны, якія сваёй груддзю засланілі Варшаву.

Беларусы не праявілі ў гадах 1917—20 дзяржаўнага інстынкту. Маю надзею, што сёння гэты інстынкт ніхто не сабярэцца правяраць.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# РАЗВІТАННЕ З МІФАМ АБ ТАЛЕРАНТНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

*(працяг; пачатак у 30 н-ры)*

## 5. Ці было мірным суіснаванне рэлігійных канфесій у ВКЛ?

Але не так проста было, між іншым, з верацярпімасцю і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Распаўсюджанне уніі і кальвінізму на тэрыторыі Літвы і Белай Русі ў XVI стагоддзі ў процівагу гэтаму дало жыццё каталіцкаму езуіцкаму ордэну, што праславіўся сваімі чорнымі справамі, якія нават атрымалі літаратурную назву „езуіцкія". Аб якой талерантнасці ў рэлігійных адносінах у ВКЛ можна гаварыць, калі ўвядзенне уніі ў XVI стагоддзі ішло праз жорсткую гвалтоўную палітыку з боку католікаў і асабліва езуітаў. Існавала нават спецыяльная інструкцыя езуіта, па якой рабіўся зварот праваслаўных ва унію і каталіцызм. Як тут не нагадаць сумна вядомых з тых часоў езуіта Андрэя Баболю і арцыбіскупа Іасафата Кунцэвіча, якія гвалтам насаджалі унію праваслаўнаму беларускаму народу і за што абодва былі забіты простымі людзьмі. Кунцэвіча нават празвалі „душахватам".

Прафесар Доўнар-Запольскі ў кнізе „Асновы дзяржаўнасці Беларусі" пісаў: „Унія аказалася пагібельная як для Польшчы, так і Літоўскай Русі". Ĭ нездарма XVII і XVIII стагоддзі (эпоха уніі) прайшла для беларусаў пад знакам усеагульнай дэградацыі, заняпаду культуры, навук і рэлігійнай, падкрэслю, нецярпімасці. Пануючая ў Рэчы Паспалітай дзяржаўная рэлігія каталіцызм, і яе адгалінаванне на Усходніх Крэсах — грэка-каталіцызм (унія) самым жорсткім чынам праследавалі праваслаўных. Жыхару Белай Русі (Літвы), які захоўваў веру продкаў — праваслаўе, жылося не лепшым чынам — нельга было разлічваць ні на добрую пасаду, ні на навучанне дзетак на роднай мове.

У гарадах уніяты не дапускалі праваслаўных да гарадскіх пасад, у вёсках сілай прымушалі святароў прымаць унію, а ў выпадку адмовы аддавалі цэрквы яўрэям у арэнду. Валынскі пасол Лаўрэйнцій Дрэвінскі на Варшаўскім сейме ў 1620 г. гаварыў: „Ужо ў вялікіх гарадах цэрквы запячатаныя, маёнткі царкоўныя разграбленыя. У манастырах няма манахаў — там утрымліваецца скаціна. Манахаў праваслаўных ловяць на дарогах, б'юць і саджаюць у турму („Беларусь в исторической государственной и церковной жизни", А. Мартос).

Трэба адзначыць, што такія традыцыі нецярпімасці да іншаверцаў былі традыцыйнымі для дзяржаў каталіцкагва свету і ў тым ліку Польшчы. Уладзіслаў Сэрчык (Unia Brzeska, Przegląd Kresowy, 11/91) сцвярджае, што Рэч Паспалітая была краем неталерантным і з мэтай утварэння адзінай дзяржавы з ВКЛ у сувязі з гэтым у 1575 годзе быў прыняты акт Варшаўскай канфедэрацыі, па якому людзям розных веравызнанняў гарантаваліся б незалежныя вызнанні веры іншай чым каталіцкая. Аднак, ужо праз месяц пасля прыняцця Варшаўскай канфедэрацыі, яна была апратэставана прымасам Якубам Уханскім, а з духавенства яе падпісалі толькі два біскупы. Супраць талерантнасці выступіў нават вядомы палеміст у спрэчках паміж праваслаўнымі і католікамі Пётр Скарга.

Пазней польскія ўлады спрабавалі ўлагодзіць канфесійныя пытанні. У прыватнасці, кароль Уладзіслаў IV заклікаў да згоды і прызнаў фармальна праваслаўе, хацеў нават утварыць праваслаўную патрыярхію. Але зноў такі нічога не атрымалася, бо такая акцыя была не па густу Рыму. У рэшце рэшт адбылося паўстанне Багдана Хмяльніцкага, мэтай якога была ўжо не проста барацьба за правы праваслаўнага насельніцтва, а ліквідацыя уніі, што было адлюстравана ў Пераяслаўскім прашэнні 1649 года: „Няволя якую церпіць наш народ рускі (а на той час „рускі" — было назвай усяго ўсходнеславянскага насельніцтва Рэчы Паспалітай — Беларускіх і Украінскіх зямель — А.А.) — горш за турэцкай з-за уніі і яе трэба знесці", і яшчэ: „Уніі каб не было, толькі рымскі і грэцкі закон".

Такія пажаданні з цягам часу былі ўсё больш анахранічнымі, і праваслаўе рабілася прарасейскім, а каталізцым (у тым ліку і грэка-каталіцызм) рабіўся прапольскім. Апошнія гады існавання уніі прайшлі пад знакам адыходу ад усходніх абрадаў, увядзення пальшчызны нават у літургію, і таму не дзіва, што некалькі мільёнаў беларусаў-уніятаў пасля 1839 г. прынялі каталіцызм і назаўсёды былі згублены для беларускай нацыі. У сувязі са сказаным, зразумела, як недарэчна гучыць заява дэкана грэка-католікаў Беларусі П. Кузьмічова (ЛіМ, N 2, 1992 г., Пра талерантнасць беларусаў), што „расейскія ўлады... забаранілі уніяцкую царкву, якая перашкаджала рабіць беларусаў талерантнымі, бо гістарычна выступала супраць прыгнёту насельніцтва". Я павінен тут сказаць, што наадварот, прыгнёт праваслаўных ішоў на працягу некалькіх стагоддзяў, і ініцыятыва кладзецца толькі на грэка-католікаў („чыстыя" католікі рымскага абраду заўсёды выглядаюць шмат прыстойней). Далей паважаны дэкан змешвае зноў дзве розныя рэчы: „пакуль беларусы размаўлялі па-беларуску забараніць уніяцкую царкву было немагчыма". Выходзіць, што беларусы кінулі ні з таго, ні з гэтага сваю мову, а таму ўладам прыйшлося закрываць уніяцкія цэрквы. А тое, што ўжо на пачатку XX стагоддзя, калі аб уніі ніхто і не ўспамінаў, пачалася сапраўдная хваля беларускага адраджэння, калі просты народ незалежна ад таго, ці хадзіў ён у праваслаўную царкву, ці каталіцкі касцёл, пагалоўна размаўляў на сваёй старажытнай беларускай мове — ці не сведчыць гэта аб спробе стварэння камусьці выгаднага міфа аб станоўчай ролі уніі ў гісторыі беларусаў? Праўда ж зусім іншая. Усе тыя міжусобныя войны сярод беларусаў, зусім не талерантныя паводзіны часткі духавенства і іншых шляхетных здраднікаў, цалкам кладуцца на унію.

Выгадна ж гэта было толькі Рыму дзеля ажыццяўлення спрадвечнай мары католікаў панавання над усім светам.

Цікава, што і праваслаўныя і каталіцкія сучасныя даследчыкі сыходзяцца ў адзнацы адмоўнай ролі уніі ў гісторыі. Экуменізм магчымы толькі пры наяўнасці той жа талерантнасці і паразумення паміж людзьмі, таго што бракавала нашым продкам на працягу многіх стагоддзяў. Ĭ хочацца закончыць разгляд уніяцкай праблемы цытатай з ужо памянутага артыкула У.А. Сэрчыка: „Імкненне да еднасці хрысціянскага свету вымагае адказнасці, таксама як і палітычнае імкненне да еўрапейскай інтэграцыі... Калі гісторыя ёсць настаўніца жыцця, прыслухаемся ўважліва да голасу мінулага, каб больш не паўтараць ужо раз зробленых памылак".

*(заканчэнне будзе)*

**АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА,**
**Менск**

# ПЕРАД З'ЕЗДАМ

За 50 гадоў у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча атэстат сталасці атрымалі 2 963 асобы. Калі палічыць усіх, хто ў гэтай школе вучыўся, лічба атрымаецца яшчэ большай. Колькі былых вучняў ліцэя спаткаецца ў Бельску на IV З'ездзе выпускнікоў, які адбудзецца 24 і 25 верасня?

* * *

**Дырэктар Зінаіда Навіцкая:** — Арганізацыйны камітэт з'езда завязаўся ў снежні мінулага года. Вялікую ролю ў яго стварэнні адыграў Мікалай Врублеўскі, які арганізаваў тры ранейшыя з'езды выпускнікоў. Стаў ён цяпер ганаровым старшынёю аргкамітэта, фактычным — пані Анна Тапалеўская. У першай сустрэчы прынялі ўдзел людзі, якія працавалі пры арганізацыі папярэдніх з'ездаў, а таксама маладзейшыя, настаўнікі школы, шматгадовы дырэктар Аляксей Карпюк, айцец Георгі Такарэўскі, старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Гэты апошні ўзяў на сябе падрыхтоўку мемарыяльнай дошкі шматгадоваму і вельмі заслужанаму для школы дырэктару Яраславу Кастыцэвічу і абяцаў запрасіць на сустрэчу ансамбль „Сябры" з Менска.

Фундатарамі мемарыяльнай дошкі з'яўляюцца Савет Міністраў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Рыхтуюць яе менскія мастакі.

**Настаўнік беларускай мовы Андрэй Сцепанюк:** — Умураванне дошкі, ушанаванне памяці Яраслава Кастыцэвіча будзе вельмі важным момантам усяе ўрачыстасці. Адбудзецца гэта ў суботу, а гадз. 11.30, пасля багаслужбы ў Прачысценскай царкве і ўскладання кветак на магілах настаўнікаў і вучняў школы.

Праграму з'езда апрацавалі мы ўжо ў студзені. Вырашылі тады, што галоўным днём будзе субота 24 верасня, практычна ад раніцы да раніцы наступнага дня. Але рэгістрацыя пачнецца ў пятніцу, ад другой пасля поўдня. Для людзей з-па-за Бельска ёсць магчымасць начлегу ў гатэлі.

*— У які спосаб запрашаеце на з'езд?*

**А. Сцепанюк:** — Усіх паведаміць асабіста не маем магчымасці, але стараемся, каб інфармацыя пра з'езд была як мага шырэйшай. Выслалі мы лісты ўсім удзельнікам трэцяга з'езда выпускнікоў, звярнуліся з просьбай распрапагандаваць ідэю нашай сустрэчы да ўсіх праваслаўных парафій у Польшчы. Паяўляецца інфармацыя ў прэсе, падключыліся да акцыі журналісты беларускіх праграм Беластоцкага радыё.

Нікому загадзя не высылаем запрашэння. Атрымаюць яго толькі тыя, хто напэўна прыме ўдзел у з'ездзе, хто раней уплаціць на банкаўскі рахунак грошы — 500 тысяч злотых ад асобы.

**З. Навіцкая:** — Аргкамітэт звярнуўся да куратара з просьбай, каб і асветныя ўлады падключыліся да святкавання юбілею школы. Але медалямі мы ўжо былі адзначаны — „Медаль Камісіі нацыянальнай адукацыі" атрымалі на папярэднім з'ездзе, а яшчэ раней адзнаку „Заслужаны Беласточчыне" — а грошай, як вядома, у асвеце няма.

*— Школа да з'езда рыхтуецца ўжо падчас канікулаў. Поўным ходам ідзе рамонт...*

**З. Навіцкая:** — Каб былі грошы ад асветных уладаў, можна было б зрабіць куды больш. Мы разлічваем на тое, што да верасня будзе закончана гімнастычная зала Пачатковай школы н-р 3. Тады будзе нам лягчэй. Калі не, давядзецца праводзіць мерапрыемства ў такіх умовах, якія ёсць. Можа будзе крыху цеснавата, але я не думаю, каб ад гэтага папсавалася атмасфера.

*— Якія ў вас спадзяванні наконт з'езда?*

**З. Навіцкая:** — Нам хочацца, перш за ўсё, каб як найбольш выпускнікоў адведала сваю школу. Каб людзі сустрэліся, паўспаміналі, пабачылі ліцэй сёння.

*— На колькі асоб разлічваеце?*

**А. Сцепанюк:** — Гэта цяжка прадбачыць. Мы рыхтуем прыняць як найбольш. Я спадзяюся на паўтысячы.

**З. Навіцкая:** — Пажадана было б, каб мы гэту лічбу ведалі дзесьці да пачатку верасня. Гэта нам значна аблегчыла б арганізацыйную працу. А клопатаў, бегатні пры такім мерапрыемстве заўсёды хапае. Я ведаю, што будуць людзі, якія прыйдуць з грашыма ў апошні дзень, але хацелася б, каб гэта былі сапраўды адзінкі.

*— Дзякуй за размову. Жадаю як найбольш удзельнікаў і як найменш арганізацыйных клопатаў.*

Запісаў
**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

Дэталёвыя інфармацыі можна атрымаць у канцылярыі ліцэя кожны дзень. Адрас:

Liceum Ogólnokształcące z BJN
im. Bronisława Taraszkiewicza
17-100 Bielsk Podlaski
ul. Kopernika 4
тэлефон 21-81

Грошы трэба высылаць на рахунак:
PKO Bielsk Podlaski
н-р рахунку: 5614-32883-132
з прыпіскай:
IV Zjazd
Absolwentów Liceum
Ogólnokształcącego z BJN
im. Br. Taraszkiewicza
w Bielsku Podlaskim.

# Праграма IV З'езда

**выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім у гонар 50-годдзя школы**

**I дзень з'езда — 23.09.1994 г.**
14.00—20.00 — рэгістрацыя ўдзельнікаў

**II дзень з'езда — 24.09.1994 г.**
ад гадзіны 8.00 — рэгістрацыя ўдзельнікаў
9.00 — набажэнства ў Прачысценскай царкве (вул. Ягелонская)
10.30 — ускладанне вянкоў на магілах настаўнікаў і вучняў школы
11.30 — адкрыццё мемарыяльнай дошкі прысвечанай Яраславу Кастыцэвічу
12.30 — урачыстае адкрыццё з'езда
— рэферат дырэктара школы
— выступленні запрошаных гасцей
— выступленні выпускнікоў
— мастацкая частка
19.00 — сяброўская вечарына

**III дзень з'езда — 25.09.1994 г.**
11.00 — сяброўскія сустрэчы выпускнікоў у будынку ліцэя
15.00 — юбілейны канцэрт прысвечаны 50-годдзю існавання школы




*МІРА ЛУКША*

### Полацак

залатыя каласы ў блакіце
пажынаюць косым лязом косы
падаюць анёльскія галоўкі ў атаву
пер'е долу ссыпае Божая рука

цішыня ў месце замяла стагоддзі
змагаецца з небам шпіль царквы-музея
і моўкне арган — займае дух грудзі
гук коціцца колам па пыльным асфальце

у белай галерэі на нявінных сценах
колер надсвядомы ў плод набрыняе
прабіваюць бруд фрэскі коранем даспелым
п'юць ваду камень птушка чалавек і дрэва

за блакітным анёлам
астаўся недзе за акном
маіх крыштальных жэстаў
чужаемся
хаця іду тваім следам
адпачываю пад тваім дрэвам
хаця твой неахоплены вокам золак
ападае мне ў бессань

*Полацак, 27 ліпеня 1994 года.*

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

### Адвячорак

стыне віно ў тваіх далонях
чырвонае
вечнае
горкае
накрывае вячэрняя смуга
сталы пейзажаў абрусам бледным
песціць вуснамі чару тайных
закавулкаў цела
дагарае дзень
і месяц садовіцца на грудзях тваіх медных
і спакойных узгорках
над узгоркамі жмурыць вочы
Сава яснакрылая
і танцуе аграмак распусны
і промень пасылае зорка
стоячы ў сініх кроквах
выпі віно мая мілая
няхай спапяляецца ў вуснах
халодная шэрасць адвячорка
што ліецца ў тваю сукенку
шытую летнім санцапёкам

### Чужынцы

ты што перакасіў сваю мяжу
ідучы на спад

*БАРЫС РУСКО*

### Між пунктамі

Я ў цэнтры. На грані.
На павалоцы цэнтра і грані.
Блукае позірк між пунктамі —
ад сябе і да сябе.
Рукі на клубах мілісекундамера.
Стаміліся хвіліны, але прыбудуць у час.
Пад асадкамі памераў свеціць твар.
Неабавязкова мой.
Напрыклад, птушкі.
Пульсуюць навокал жывыя шары,
Каляровыя, як папугаі.

### Уцёкі

Агонь слоў пячэ, як крапіва.
Усюды іх поўна, і усюды пякуць.
Мо за ракою, на бязлюддзі, змагу жыць
паводле ўласнай кнігі.
Перш чым кагорта пчол пратрэ вочы,
украду ім сонца і ўсе кветкі.
Перш чым каршун ударыць крыламі
ў блакіт,
згарну ў рулон луг з усім смакавітым.
Перш чым убачу вочы,
пабудую дом з чароту і зялёнай стужкай
выгараджу ціш.

### Засуха

Спякота васьміногам упаўзе ў горла
зямлі,
высмоктвае апошнюю кроплю вады
і ўзнімае жоўтае радно пераможцы.
Райскі блакіт, заслані твар воблакам
слёз,
хай арасее не мая скронь,
а сэрца дуба нямога,
у цяні якога здзяйсняецца сон.

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ Ў ДАШАХ

Беларускае грамадска-культурнае таварыства арганізуе гэтым надзвычай гарачым летам рэкордную колькасць фэстаў. Па два ў нядзелю. 31 ліпеня фэсты праходзілі ў Дашах і Сямяцічах.

Дашы, гэта найбольшая вёска Кляшчэлеўскай гміны. А да таго яшчэ 15 гадоў існуе там дасканалы калектыў беларускай народнай песні „Каліна". Таму пэўна фэст праводзіўся якраз у гэтай мясцовасці, а не ў горадзе Кляшчэлях.

Вялікую частку арганізацыйнай працы ўзяў на сябе бурмістр Аляксандр Сяліцкі. Як расказвала мне кіраўнік „Каліны" Валянціна Міцэвіч, нават месца пад сцэну ён выбраў. На спартыўнай пляцоўцы дашоўскай школы, так каб і артысты, і публіка маглі схавацца ў цені высокіх тапаляў. А сонца гэтай нядзелі сапраўды пражыла — відаць, было пад 40 градусаў.

Гаспадынямі фэсту былі, — як жа ж інакш — спявачкі з „Каліны". Яны і на сцэне паказаліся як заўсёды цудоўна, і на абед гасцей запрасілі, і яшчэ між сталамі завіхаліся, даносячы ўсё, што трэба ў багатай гасціне.

Сам канцэрт пачаўся ў 12 гадзін. Выступілі ў ім, апрача гаспадынь: гарадоцкі хор пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы і з заўсёды маладым Юркам Налівайкам, „Арэшкі" з Арэшкава, жаночы калектыў з Орлі, браты Кавальскія з гурту беларускай эстраднай музыкі „Рэаль", група спевакоў з хору Гайнаўскага дома культуры і бельская „Маланка" пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. Вялікую сілу волі праявілі гайнаўяне, якія, хаця не маглі сабрацца ў камплекце і акампаніятар якіх якраз за мяжою, а ўсё-такі ў Дашы прыехалі і далі добры канцэрт. Зрэшты ўсе выканаўцы паказаліся з як найлепшага боку. Маладзейшай частцы публікі падабаліся асабліва песні Янкі і Міраслава Кавальскіх пад акампанемент нейкіх камп'ютэрных клавішаў, што іграюць за пяць розных інструментаў. Як заўсё-ды, заваражыла гледачоў „Маланка". Яе музычнае мастацтва ўсё павышаецца, а рэпертуар абнаўляецца, узбагачваецца.

Сабраныя пад стройнымі таполямі людзі, не адно з Дашоў, але і з суседніх вёсак, маглі не толькі паслухаць беларускую песню са сцэны, але і купіць касеты, каб любавацца роднымі мелодыямі ў хаце. Сваю кніжку „Імгненні" падпісваў Янка Целушэцкі. Камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы збіраў грошы на сваю інвестыцыю.

Як заўсёды на такога тыпу імпрэзах, можна было купіць піва, марожанае, дзецям нейкія ледзянцы ці каляровыя цацкі.

Пасля канцэрта і багатага пачастунку спевакі падаліся ў Сямяцічы, дзе а пятай гадзіне пачынаўся наступны фэст. А мясцовыя арганізатары запрашалі на патанцоўку, якая мелася пачацца ў восем вечара.

Калі б спрабаваць падсумаваць нейкім чынам арганізатараў сёлетніх фэстаў, трэба было б станоўча ацаніць іхнюю актыўнасць. Вельмі добра, што беларуская песня гучыць па ўсёй Беласточчыне. Добра, што Беларускае таварыства сумела знайсці ў прадстаўніках гмінных уладаў прыхільніка і памагатага пры арганізаванні гэтых імпрэз. Крыху шкада, што фэсты арганізуюцца наспех, як быццам для кольkаснага паказчыка. Варта было б задумацца, ці не сарганізаваць дзе якое свята, якое працягвалася б з ранку да вечара, з нейкім турнірам, такі проста нядзельны беларускі пікнік.

**ак**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Выступаюць на агглядзе беларускай песні вучні са школы № 2 у Сямяцічах.* Фота М.Ваўранюка

Беларускія музычныя інструменты

# ЖАЛЕЙКА

Жалейка (ражок, пішчык, дудка, чаротка) — беларускі народны музычны духавы інструмент сям'і язычковых. Мае аналагі ў музычным інструментарыі рускіх і ўкраінцаў. У залежнасці ад мясцовай традыцыі жалейкі розняцца па сваіх памерах, форме. Вырабляюцца з розных матэрыялаў — чароту, жытняй саломы, дрэва, рога, гусінага пяра, бываюць з ігравымі адтулінамі і без іх. Адпаведна гэтаму жалейкі адрозніваюцца адна ад другой аб'ёмам і характарам гучання. Агульнай канструкцыйнай адзнакай шматлікіх рэгіянальных разнавіднасцяў жалейкі з'яўляецца належнасць язычка, нарэзанага або прывязанага. Тэмбр жалейкі — моцны, рэзкі, крыху гнусавы, „галасьбны".

Жалейка вядома ў Беларусі з XV стагоддзя, шырока распаўсюджана. У мінулым інструмент быў папулярны сярод пастухоў, народных музыкантаў. Часам ігрой забаўляліся дзеці-падлеткі. Яна гучала на вяселлі, на вячорках, хрэсьбінах. Жалейка выкарыстоўвалася як сольны і як ансамблевы інструмент. На ёй часта ігралі ў спалучэнні з дудой, цымбаламі, скрыпкай, гармонікам. У наш час жалейку, як і раней, можна пачуць у беларускай вёсцы. Як эпізадычны інструмент яна выкарыстоўваецца ў прафесійных і самадзейных аркестрах і ансамблях народных інструментаў.

Н. ЯКАНЮК

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

10

## УСКРАІНА МАЛАДОСЦІ

Я падаўся шукаць начлегу на ўскраіну свае маладосці. Некалі шчыльна пазабдоўваныя вуліцы паказвалі воку шэрыя лапіны прыску, а зверху — абгарэлае галлё ігруш і яблынь. Ацалелыя драўляныя хаціны напакоўваліся прыезджымі ад падлогі да столі, на душу прыпадала метр ці паўтара.

Праз нейкі час з'явілася кватэра — частка наспех збудаванай хаціны. Пасяліліся там я з жонкай, яе сястра Наташа з дачкою-школьніцай. Не жылі, а мерзлі.

Дом будавалі палонныя, пагадненне аб звароце іх яшчэ не было. Дык не карміць жа дармова, да таго ж па рабочай норме, плойму здараўцоў! Хай хоць што робяць, напэўна, не адзін з іх прыкладаў руку да спалення нашых дамоў.

Палонныя расчышчалі руіны, разбівалі на кавалкі бетанаваныя падмуркі і сутарэнні, разбіралі на цэглу сцены. А там-сям аднаўлялі больш-менш прыдатныя для жытла мураванкі. Будаваць драўляныя дамы не ўмелі, рабілі абы-як, дый, мусіць, нагляду належнага не было.

Жыхарам, што засялялі пастаўленыя гэтымі рукамі дамы, прыйшлося нясоладка. Паміж кепска падагнанымі бярвеннямі лёгка ўваходзіў палец, сцен не імшылі, дзе-нідзе ўткнулі ў шпары пакулле, дый тое, разгледзеўшыся, парасцягвалі вераб'і і большыя птушкі на ацяпленне сваіх сядзіб.

За недаробкі мы ўзяліся самі. Пазатыкалі большыя шчыліны чым маглі — кудзеляю, анучамі, ватаю, а ўсярэдзіне абабілі сцены нейкай чорнай, тоўстай, пад кардон, паперай.

Усё роўна, на дварэ было цяплей. Дома мы не спускалі з ног валёнак, а перад выхадам на вуліцу абувалі чаравікі.

Прымаўку „па хаце вецер ходзіць" склалі няйначай маючы на ўвазе нашу кватэру — тут вецер распяразваўся як хацеў. Фіранкі на вокнах безупынку калываліся, у пакінутых на стале кнігах самі гарталіся старонкі, а ў шчылінах між рамаю і шыбамі тоненька пасвіствала, асабліва ў вецер з поўначы, якраз туды і глядзела наша жытло.

*(працяг у наступным нумары)*

МАКСІМ ЛУЖАНІН

# ЛАГАГРЫФ




1. чорна-шэрая птушка, 2. школьны прадмет, які вучыць пра фізічныя з'явы, 3. салодкі сок, які пчолы збіраюць з кветак, 4. артыст, 5. прастора, у якой знаходзяцца планеты і зоркі, 6. дабывае вугаль.

Вылучаныя літары складуць імя вядомага беластоцкага паэта, якога вершы для дзяцей друкуюцца амаль у кожным нумары „Зоркі".

*ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА*

# КАЗКА НОВАЯ — ПРА БОТЫ, ПРА БУСЛА І ПРА БАЛОТА

Выйшаў Боця на балота
Пафарсіць у новых ботах.

Падбягаюць кулікі:
— Во фасоністы які!..

Падбягаюць журавы:
— Не халявы, а хлявы!..

А прыбеглі чаплі з броду:
— Мы такіх не мелі зроду!

І няўжо ты не дасі
Гэткіх ботаў панасіць?..

Але Боця бы не чуе,
Па пракосах шпацыруе.

Нос у Боці — ой-ё-ёй! —
Не дастаць і качаргой.

Раптам Боця паслізнуўся
І ў канаве апынуўся.

Па калені Боця ўграз.
Не пускае Боцю гразь.

Чаплі збегліся, крычаць:
— Боты трэба ратаваць!

— Твань каму мясіць ахвота?
— Лепей вымем Боцю з ботаў!

Прыляцелі з-за ракі
Журавы і кулікі,

Сталі чаплям пасабляць
Боцю з ботаў даставаць.

Валтузні хвіліна з ім,
І наш Боця — на сухім.

— Боты поначы шукаць,
Што з ваўкамі начаваць...

Млосна робіцца ўваччу.
Я сушыцца палячу!..

Тую бачачы пацеху,
Ледзь не лопалі са смеху

Жабы-мамы, жабы-таты,
А найболей — жабяняты.

А як толькі развіднела,
Думку выказалі смела:

— Час нарэшце надышоў
Правучыць усіх буслоў!..

І зрабілі, як сказалі, —
Боты ўраз перахавалі.

Зверху — жменю асакі.
І паселі, як пянькі...

...Зноў наш Боця на балоце.
Не ў гуморы толькі Боця.

Дол абмацаў сто разоў,
Але згубы не знайшоў.

Ногі ў Боці па калені
Ад вады пачырванелі.

Боты стаў свае шукаць,
Ды нідзе іх не відаць.

— Мо сплылі яны ў вірок? —
Чаплі крыкнулі здалёк.

— Можа, ракі патапілі? —
Журавы з суседа кпілі.

Прыляцелі з-пад ракі
Непаседы кулікі,

На канаву паглядзелі:
— Тваё боты... жабы з'елі!..

Але ім не верыць Боця.
Ён і зараз на балоце.

Ля канавы босы ходзіць
І з вады вачэй не зводзіць...

Свае боты ён шукае.
Заадно і жаб ганяе.

# СТАРЫ САЛДАТ

(літоўская казка)

Адпусцілі старога салдата са службы, і пайшоў ён наймацца парабкам. Ды ніхто яго нідзе не бярэ. Сустрэў ён аднойчы бабульку і пажаліўся на свой лёс. Бабулька і кажа:

— Далёка на ўсходзе, сярод сыпучых пяскоў, стаіць шкляны замак, а ў тым замку чорны пан жыве. Ідзі да яго, ён цябе ноймe.

Паслухаўся салдат бабулькі і пайшоў на ўсход, шкляны замак чорнага пана шукаць. Увечары лёг ён спаць пад яблынькай. Зашапацела яблынька лісцем і пытаецца:

— Чаго ты, чалавеча, заблукаў у гэтую пустыню?

— Іду да чорнага пана, што ў шкляным замку жыве, — адказвае салдат.

— Чула я, што пан гэты вялікі мудрэц. Папытайся ў яго, калі на мне пачнуць яблыкі радзіць. А то ўчора прыходзілі сюды мужыкі і казалі, што калі і на той год не будзе на мне яблыкаў, дык ссякуць мяне.

— Добра, папытаю, — паабяцаў салдат.

Ідзе ён далей, аж бачыць: стаяць адна адной упрытык дзве гары, ініяк не абысці іх, не аб'ехаць. Засмуціўся салдат і просіць:

— Злітуйцеся, горы, прапусціце мяне.

— А куды ты, чалавеча, ідзеш? — пытаюцца горы.

— Да чорнага пана, што ў шкляным замку жыве.

— Чулі мы, што пан гэты вялікі мудрэц. Папытайся ў яго, ці доўга яшчэ нам тут на варце стаяць?

— Добра, спытаю, — паабяцаў салдат.

Расступіліся горы і прапусцілі яго.

Падышоў салдат да ракі — нідзе ні моста, ні чоўна не відаць. Як тут перабарацца на другі бераг? Вось і просіць ён раку:

— Рэчка-рэчачка, зрабі ласку, перанясі мяне на другі бераг.

— А куды ты, чалавеча, ідзеш? — пытаецца рака.

— Да чорнага пана, што ў шкляным замку жыве.

— Добра, перанясу. Але паабяцай мне, што папытаешся ў чорнага пана, чаму ў маёй вадзе аніякая рыба, аніякая жыўнасць не водзіцца.

— Абяцаю.

— Тады станавіся на мае хвалі, — сказала рака.

Стаў салдат на хвалі, і яны перанеслі яго на другі бераг, нават ног не замачылі.

Бачыць салдат — удалечыні шкляны замак зіхаціць. Не паспела яшчэ сонейка зайсці, як салдат падышоў да яго. А замак той такі прыгожы, што і не выказаць: усімі колерамі на сонейку пераліваецца.

Упусціў слуга салдата ў замак. А чорны пан, як толькі ўбачыў яго, адразу і кажа:

— Ведаю, ты да мяне наймацца прыйшоў. Добра, вазьму цябе. Цэлы год будзеш у мяне служыць, толькі глядзі, старайся!

— Хай пан не турбуецца, — адказвае салдат. — Я ў войску служыў, састарыўся на службе, і ўсе мною былі задаволены. І вам, пане, дагаджу.

Пан кажа слузе:

— Ідзі накармі салдата і спаць пакладзі. А раніцай няхай гоніць авечак на пашу.

Назаўтра раніцай даў слуга салдату бізун і дудачку ды кажа:

— Як ляснеш бізуном — авечкі разыдуцца каторая куды, а як на дудачцы зайграеш — усе ў адно месца збяруцца. Адно, глядзі, ваўкоў сцеражыся.

Пасе салдат авечак, стараецца. Год мінуў, і ніводнай авечкі воўк не зарэзаў. Салдат ваўкоў і блізка да чарады не падпускаў.

Вось паклікаў пан салдата і кажа:

— Служыў ты спраўна. Цяпер прасі, чаго хочаш.

— На адыходзе хачу я пра сёе-тое даведацца, каб аддзякаваць рацэ, дзвюм гарам і яблыньцы: яны памаглі мне ў дарозе.

—Пытайся.

Салдат яму і расказвае:

— Рака мяне сухім на другі бераг перанесла, горы перада мною расступіліся, а пад яблынькай я ўсмак выспаўся. За гэта прасілі яны мяне даведацца, чаму ў рацэ ніякая жыўнасць не водзіцца, ці доўга гарам на варце стаяць і чаму яблынька яблык не родзіць.

Чорны пан даў адказы на ўсе пытанні. Салдат падзякаваў яму і пайшоў.

Вось ідзе ён тою ж дарогаю, што і сюды ішоў, і падыходзіць да ракі. А яна яшчэ здалёк крычыць:

— Ці спытаў ты ў чорнага пана, чаму ў маёй вадзе аніякая жыўнасць не водзіцца?

— Спытаў, спытаў.

— І што ён адказаў?

— Перанясі мяне на другі бераг, тады скажу.

Рака перанесла. Салдат падняўся на круты бераг і закрычаў:

— Толькі тады ў тваёй вадзе жыўнасць завядзецца, як ты хоць аднаго чалавека ўтопіш!

Толькі ён гэта сказаў, а рака як забурліць, як забушуе, з берагоў выйшла, разлілася шырока, але салдата не дагнала.

Падыходзіць салдат да гор. Яны яшчэ здалёк гукаюць:

— Спытаў ты ў чорнага пана, ці доўга нам яшчэ на варце стаяць?

— Спытаў, спытаў.

— А што ён адказаў?

— Спачатку прапусціце мяне, тады скажу.

Расступіліся горы, прапусцілі салдата. Адбегся ён як мага далей і кажа:

— Тады вы перастанеце на варце стаяць, як хоць аднаго чалавека задушыце.

Загулі, загрукацелі горы, ажно зямля наўкол скаланулася, ды салдат ужо далёка быў.

Падышоў салдат да яблынькі, а яна яшчэ здалёк лісцікамі шапаціць:

— Ці пытаўся ты ў чорнага пана, калі на мне яблычкі ўродзяць?

— Пытаўся, пытаўся.

— І што ён адказаў?

— Пад тваімі каранямі золата закопана. Як выкапаюць яго, тады і яблычкі на табе пачнуць радзіць.

— Дык зрабі ласку, выкапай золата, — просіць яблынька. — Разбагацееш, не будзеш гора гараваць ды па свеце бадзяцца.

— Навошта мне золата? Я і без яго пражыву.

— Мусіць, ты хочаш, каб мяне ссеклі? — заплакала яблынька.

Пашкадаваў салдат яблыньку, выкапаў золата, насыпаў поўны мяшок і пайшоў дадому.

І праўда, з таго часу перастаў салдат бадзяцца па свеце ды гора гараваць.




— Тата, хто гэта песіміст?

— Гэта такі чалавек, дзіця, які не хоча даіць карову, таму што баіцца, што малако пракісла.

* * *

Прыезджы пытаецца ў прабягаючага хлапчука:

— Тут у вас калі-небудзь дождж канчаецца?

— Не ведаю, — адказвае той, — мне яшчэ толькі дзесяць год.

* * *

— Тата, ты зможаш даць мне дзесяць тысяч злотых на марожанае? — спытаў Міколка.

— Не.

— Дзяцей хоча мець кожны, — буркнуў Міколка, — але так, каб гэта нічога не каштавала!

* * *

Гід: — У гэтай урне захоўваецца попел фараона.

Вучань-турыст: — Вось не думаў, што фараон быў такім заядлым курцом!

* * *

— А я вось злавіў во такую рыбу, — хваліцца Рыгорка свайму сябру.

— Дзе? — цікавіцца той.

— У рэчцы, што за выганам...

— Дык тая ж рэчка вузенькая, пераступіць можна. Як жа яна там плавала?

— А ўздоўж.

* * *

Маленькая дачка нейк паскардзілася бацьку на боль у жываце. Той і кажа:

— Дачуся, каб жывоцік не балеў, трэба, каб ён не быў парожнім, а дзеля гэтага трэба добра есці. Зразумела?

У наступны дзень дачка ўбачыла, што бацька завязаў галаву ручнікам...

— Татка! Я ведаю, чаму ў цябе галава баліць.

— А чаму?

— Таму, што яна ў цябе парожняя...

* * *

Маці бацьку:

— Ты толькі падумай, наш Янка з'еў цэлую міску варэнікаў.

— А вы думалі, што я нічога не магу!

* * *

— Што бліжэйшае, — спытаў Міколка свайго старэйшага брата, — Месяц ці Амерыка?

— Месяц, — упэўнена адказаў той. — Месяц мы ж можам убачыць, а Амерыку — не.

* * *

На рынку, каля воза, стаіць бацька з хлопчыкам. Прадалі ўсё, што прывязлі, бацька выпіў... Побач праходзіць нейкі мужчына з клункам, а ў ім — парася.

— Шчанятка дзядзька панёс, — тлумачыць бацька сыну.

Парася варухнулася, рохнула.

— А чаму ж яно не гаўкае? — дапытваецца хлопчык.

— Яшчэ не навучылася.

Падборку зрабіў
ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ



— Трошкі мне страшна ў гэтым цёмным лесе пад Гарадком...

Фота М. Лукшы

## Вершы Віктара Шведа

### ДАГАВАРЫЛІСЯ

У школе спыталіся Ігната,
Што шмат заўжды гаворыць:
— А кім жа ёсць, скажы, твой тата?
— Мой тата вельмі хворы.

— А чым займаецца твой тата,
Скажы нам, што ён робіць?
— Мой тата кашляе заўзята,
Мучыць яго хвароба.

### КАШЭЧЫЯ ВОЧЫ

— Кашэчыя ў сястрыцы вочы, —
Хваліўся малы Дзіма. —
Бачыць усенька ў цемры ночы.
— Ды гэта ж немагчыма!

— У гэтае, мой мілы Лёня,
Павінен ты паверыць.
„Ты не пагалены сягоння" —
Сказала кавалеру.

### СЁННЯ Ў НАС ДЫКТОЎКА

— Падвязіце мяне ў школу, —
Папрасіў шафёра Жэня.
— Еду ж я яшчэ на сёлы.
— А мне гэта без значэння.

Я ў нядобрым сёння часе,
Прызнавацца нат нялоўка.
Планавана ў нашым класе
Вельмі цяжкая дыктоўка.

*МІКОЛА СЦЕПАНЕНКА*

# ПРАПАГАНДЫСТ

*(апавяданне)*

Асцярожна абыходзячы калюжыны, баючыся абпырскаць свой чорненькі, добра адпрасаваны гарнітур я ішоў на працу ў Дом літаратара. У гэтым доме на працягу пяці гадоў я працаваў тэхнікам, што зусім не адпавядала чатыром гадам вучобы на філалагічным факультэце. Таму і касцюмчык даводзілася апранаць даволі рэдка — альбо на значны юбілей, ці на пахаванне пісьменніка. На пахаваннях, большасць з якіх чамусьці здаралася позняй восенню, нязменны заўгас Сямён Самуілавіч Элькінд ускладаў на мяне абавязак па вынасу труны, бо пасля заканчэння грамадзянскай паніхіды частка калегаў нябожчыка-пісьменніка некуды знікала, і толькі праз гадзіны са дзве са шчырымі сяброўскімі размовамі сыходзіліся за хаўтурным сталом.

На ганку Дома літаратара ў пацёртай джынсоўцы з перакінутай праз плячо гітарай стаяў паэт Кудласевіч. У Саюзе пісьменнікаў ён працаваў трэці месяц і ўся ягоная праца зводзілася да таго, каб арганізаваць і правесці выступленні пісьменнікаў. Не паспеў я з ім параўняцца, як ён утрончыўся ў мяне вялікімі вачамі і гучна запытаў:

— Можа, ведаеш, дзе знайсці Асташонка?-Другое выступленне зрывае.

Я дакладна ведаў, што другі тыдзень Алесь знаходзіцца ў запоі, і як звычайна ў такія дні сядзіць у свайго шваграў прыёмным пункце шклатары і апахмяляецца халодным півам. Але я моўчкі пацiснуў плячыма і збіраўся пайсці далей, але ж паэт затрымаў:

— Трэба выступіць перад настаўнікамі, тут недалёка. Паўгадзіны выступлення і 18.50 у цябе ў кішэні. — Зрабіўшы асаблівы націск на 18.50, Кудласевіч выцягнуў з кішэні дзве пуцёўкі і паказаў на жалезную браму, за якой пачынаўся дзіцячы парк імя М. Горкага. Я зірнуў на гадзіннік. Да вынасу труны заставалася больш як тры гадзіны.

— Скажаш колькі слоў пра маладую літаратуру, я прачытаю пару вершаў, крыху паспяваю — і ўсё атрымаецца цудоўна! — пацягваючы мяне за руку пераконваў паэт.

Я акуратна паправіў гальштук, пакруціў у руках чырвоную папку з некалькімі апавяданнямі, якія збіраўся аднесці ў рэдакцыю і сам сабе падумаў, што знешне я выглядаю куды больш падобна на пісьменніка, чым паэт Кудласевіч. Ды і 18.50 на дарозе не валяюцца.

Паэт задаволена паляпаў мяне па плячы і мы разам пайшлі ў парк. Мне даволі часта даводзілася бачыць і чуць выступленні арганізаваныя па лініі Бюро прапаганды. Для літаратараў гэтыя выступленні служылі лёгкай здабычай грошай. Яны аб'ядноўваліся ў невялікія групы, раз'язджалі па калгасах ды па заводах рэспублікі, дзе падчас абедзенных перапынкаў выпрабоўвалі нервы стомленых рабочых чытаннем сваіх літаратурных здабыткаў. Добра выступаць перад стомленымі маладасведчанымі калгаснікамі, а вось чым уразіць настаўніц? Праўда, слова настаўніца апошнім часам асацыіравалася ў мяне з вясковымі дзяўчатамі, якія пасля заканчэння вучэльні працавалі ў школе і завочна вучыліся ва універсітэце. На экзамене па антычнай літаратуры на пытанне: „хто з'яўляецца галоўным героем „Адысеі", большасць з іх чамусьці адказвала, што гэта Гамер, сляпы Гамер. Пры гэтым дацэнт Лапідус закатваў вочкі, маленькія і чорненькія, пырскаючы слінай крычаў:

– Вы маю кнігу чыталі?

— Чыталі, чыталі, — ціхенька, спалоханымі галасамі адказвалі дзяўчаты і валасатая рука выкладчыка ставіла здавальняючую адзнаку. На другім курсе іх гістарычны кругагляд пашыраўся і дзябёлыя разрумяненыя дзяўчаты пачыналі называць новыя імёны славутых дзеячоў культуры: А. Міцкевічу прыпісвалі Пан Тадэвушавіч, а вядомаму кампазітару Агінскаму давалі новае імя „Паланез". Але ж цяга да навукі і аддаласць настаўніцкай працы зрэшты давалі свае вынікі, бо ўжо на трэцім курсе яны маглі назваць з дзесятак твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў, пяцёра якіх былі Іванамі, а славутага і жывога Кандрата Кандратавіча Крапіву чамусьці залічвалі ў дакастрычніцкі перыяд. Частка выкладчыкаў спачувала ім за цяжкую выкладчыцкую працу і таму павышэнне на адзін-другі бал ацэнкі было дастаткова распаўсюджаным. Я ў гэтыя часы чамусьці радаваўся, што не працую настаўнікам і з болем шкадаваў іх вучняў.

Паэт энергічна размахваў рукамі і ўсю дарогу безупынна балбатаў, на што я цалкам не рэагаваў. Каля ўваходу ў Дом настаўніка нас сустрэла маладая ў сінім строі жанчына. Мы прывіталіся, паэт хуценька зірнуў на гадзіннік і растлумачыў, з якой нагоды мы тут з'явіліся. Жанчына скасавурана алгедзела паэта і ўважліва ўтаропілася ў мой бок, быццам спрабуючы ўзнавіць нешта ў сваёй памяці. На імгненне нашыя позіркі сутыкнуліся і ў маёй галаве прамільганула ненавязлівая думка, што хутчэй за ўсё яна чакала ўбачыць лысага, з салжаніцынскай барадой Асташонка. Мне зрабілася крыху няёмка, але ж жанчына з'едліва ўсміхнулася і прапанавала прайсці на другі паверх. У невялікім, добра абсталяваным пакоі сядзела другая жанчына. Я крыху збянтэжыўся ад таго, што ўсе яны былі значна старэйшымі за нас. Паэт дастаў з пашарпанай похвы гітару і паставіў перад сабой. Здзіўленыя позіркі настаўніц слізгацелі па нашых абліччах і мне падалося, што ў канцы яны абавязкова выставяць нам адзнакі. Я хваляваўся і ў сваім выступленні пераскокваў з тэмы на тэму спрабуючы не засяроджваць увагу на сабе, а давесці да слухачоў сапраўдны стан маладой беларускай літаратуры. Я з веліччу ўзносіў паэзію свайго сябра А. Сыса і крытычна ставіўся да маладога празаіка А. Федарэнкі. Гэты маладзенькі празаік усё сваё свядомае жыццё марыць быць падобным, як знешне, так і ўнутрана, да Л. М. Талстога. Можа некалі ён і зможа стаць носьбітам маральных ідэалаў Льва Мікалаевіча, але ж выгадаваць і насіць талстоўскую бараду ідэя цалкам для яго недасягальная.

У захапленні я не заўважыў, колькі часу заняло маё выступленне, але ж калі ўбачыў млявых, пазяхаючых настаўніц — з палёгкай уздыхнуў і перадаў слова паэту. За тры месяцы выступленняў ён адпрацаваў стабільную на ўсе выпадкі праграму. Але ж, адчуваючы рэакцыю аўдыторыі, я зразумеў, што настаўніц не цікавіць стан маладой беларускай літаратуры. І калі б я пачаў распавядаць пра японскую сярэдневяковую літаратуру эпохі Хайсан, а паэт пачаў бы спяваць старажытныя кітайскія рамансы ў жанры Цы, — рэакцыя была б аднолькавая.

На заканчэнне нам задалі некалькі тыповых пытанняў і што мяне здзівіла — усе яны адрасаваліся мне. Як я вучыўся ў школе? Хто і якім чынам прывіў мне любоў да беларускай літаратуры? У прысутных быў бы, мабыць, шок, калі б я адказаў праўду, а таму мне не заставалася анічога іншага, як пачаць прыгожа хлусіць. Я зрабіў з сябе выдатнага вучня, які скончыў школу з адзінай чацвёркай па расейскай мове і ўсё сваё дзяцінства з захапленнем аддаваў вучобе. Выкарыстоўваючы ўзвышаны лексікон, я доўга ўсхвальваў добрасумленную настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Ларысу Пятроўну Лявіцкую.

Пасля гэтага жанчына ў сінім строі ўручыла нам па тры гваздзікі і я хуценька выйшаў з аўдыторыі. У калідоры мяне нечакана аклікнулі. Я азірнуўся — насупраць мяне, заціскаючы ў руках нататнік, стаяла жанчына.

— Вы мяне не пазналі? — яна асцярожна зняла вялікія з тоўстымі лінзамі акуляры.

— Пазнаў, — падобна напалоханаму вучню вымавіў я. Перада мной стаяла Ларыса Пятроўна. Яна вельмі змянілася з часоў майго школьніцтва, але ж высокая з пафарбаваных хной валасоў прычоска і беленькі бант на шыі яшчэ больш пасавалі да яе школьнай мянушкі „Львіца".

— Нас вось сюды на ўдасканаленне прыслалі, — ціха паведаміла настаўніца.

Я хацеў нешта сказаць, але ж у галаву лезлі зусім іншыя думкі. Я ўзгадаў наш маленькі гарадок, доўгі аднапавярховы будынак школы, больш маладзейшую і заўсёды злосную Ларысу Пятроўну, якая за часы вучобы ніколі не паставіла выдатнай адзнакі. Аднойчы, што мне ясна запомнілася, калі, я, смеючыся і праз радок забываючы, чытаў верш Аркадзя Куляшова, яна схапіла са стала падручнік і з усяе сілы і моцы заехала па галаве, чым на ўсё жыццё адбіла ў мяне ахвоту насіць у кішэні камсамольскі білет.

— Вы мусіць спяшаецеся? — заўважыўшы маю разгубленасць запытала настаўніца.

— Так, — адказаў я і, сціскаючы вусны, усміхнуўся.

На развітанне мы абмяняліся тэлефонамі.

— Я рада за цябе! — гучна, каб было чуваць астатнім вымавіла Ларыса Пятроўна.

— Дзякуй, — адказаў я і пайшоў да выхаду.

Калі б сёння мне давялося выступіць яшчэ раз, дык пэўна запрасіў бы яе ў рэстаран, але ж, на жаль, у 18.50 у рэстаране неўкладзешся, прыкінуў я і паспяшаўся ў Дом літаратара, дзе мяне чакала труна з нябожчыкам.

<u>Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў</u>

# ЦАРКОЎНАЕ МАСТАЦТВА

## Частка III

Як ужо гаварылася раней, Царква ў Беларусі атрымоўвае назад заграбленыя некалі будынкі і прадметы культу, але музеі неаднойчы супрацiўляюцца гэтаму. У Польшчы сітуацыя выглядае крыху інакш і аб тым, адкуль выходзіць супраціў, таксама ўжо гаварылася. Што тычыцца Беларусі і наогул былога Савецкага Саюза, дык музеі лічаць, што некаторыя царкоўныя аб'екты і творы мастацтва сталі агульнанацыянальнымі святынямі і толькі свецкія прафесіяналы здольныя належна дбаць пра іх, экспанаваць і ахоўваць. Дасканалым прыкладам можа быць Новаіерусалімскі манастыр, якога міністр культуры Расеі Яўген Сідараў не хоча перадаць Маскоўскай Патрыярхіі („Ізвесція", 2.06.94).

Супраціўляючыся вяртанню Царкве ейнай маёмасці, музейнікі сцвярджаюць, што музеі, архівы і бібліятэкі перахоўваюць толькі тое, што належыць усяму народу, гэта значыць і вернікам, і атэістам, хрысціянам і мусульманам, людзям высокакультурным і малаграматным. Паводле некаторых музейнікаў і гісторыкаў мастацтва, помнікі культуры, сабраныя ў калекцыі якраз дзеля таго, каб яны былі даступныя для ўсіх, каб іх можна было вывучаць і натхняцца імі. Яны лічаць, што Царква не можа гарантаваць чатырох прынцыпаў, якімі ў сваёй працы кіруюцца музеі: надзейнай аховы, агульнадаступнасці, адпаведных умоў тэмпературы і вільготнасці і, урэшце, навуковай рэстаўрацыі.

Хаця цяжка згадзіцца з меркаваннем, што толькі музеі здольныя гарантаваць чатыры згаданыя прынцыпы, звернем увагу на тое, што помнікі культуры нібыта належаць „усяму народу". Ужо само паняцце „народ", напрыклад „савецкі народ", неадназначнае і спрэчнае. Не магу зразумець, як матэрыяльная культура беларускага селяніна можа адначасова належаць азербайджанскаму мусульманіну? На маю думку, „калектыўная ўласнасць" — паняцце абсурднае, хлуслівае і недарэчнае. Калі нешта належыць усім, у сапраўднасці не належыць нікому. Гэтак аднак не бывае, бо нехта ж мае правa распараджацца маёмасцю, і гэта значыць, што на самой справе яна належыць яму. Калгаснік у ніякім выпадку не лічыць сябе ўласнікам калгаснай зямлі, а рабочы — уласнікам фабрыкі. Вось таму яны не маюць і гаспадарчага стаўлення да сваёй працы, не адчуваюць сябе адказнымі ні за зямлю, ні за фабрычныя машыны. Паўстрымаюся ад далейшых высноваў, бо гэта добра вядомая заканамернасць, але са сферы эканомікі.

Народ — гэта вы і я, але я ў ніякім выпадку не адчуваю сябе саўласнікам экспанатаў музея рэвалюцыйнага руху. Яны належаць пераймальнікам і прадаўжальнікам руху — гэта значыць, камуністам. Народ — гэта побач з вернікамі і згаданыя камуністы, і атэісты, якія з ідэалагічных меркаванняў знішчылі тое, чаго не стварылі, што стагоддзямі належала вернікам. Вось адзін толькі прыклад:

Ёсць у Менску па вуліцы Няміга пабудаваны ў 1611 годзе сабор Святых Апосталаў Пятра і Паўла. У 1795 годзе, на асабісты загад царыцы Кацярыны II, царква была пераасвячана ў імя пакутніцы Кацярыны, звонку і ўнутры шмат разоў перабудоўвалася, але заўсёды выконвала функцыю або праваслаўнага, або уніяцкага храма. У царкве знаходзілася цудадзейная Ікона Менскай Божай Маці, шанаваная абедзьвюма канфесіямі, якой, на думку спецыялістаў, не менш тысячы гадоў. Паводле паданняў, у 988 годзе Ікона была прывезена з грэчаскага горада Херсанез у Кіеў і затым у 1500 годзе апынулася ў Менску. У 1852 годзе Ікона была апранута ў каштоўную сярэбраную рызу, якая сама па сабе ўжо была мастацкім творам. Святыня ўцалела ў шматлікія войны і ліхалецці, не апаганілі яе нават татары, але свая „народная ўлада" — бальшавікі. На старажытным храме, які павінен быў бы зберагацца як архітэктурны помнік, яны павесілі шыльду „Харчовы склад н-р 7". У 1921 годзе ўрадоўцы садралі з Іконы сярэбраную рызу і і карону, упрыгожаныя брыльянтамі. Каштоўнасці не пайшлі нават на змаганне з голадам у Паволжы, але на агітацыйныя мэты. Улетку 1936 года ўлады ўзарвалі царкву, рабуючы пры гэтым старажытную Ікону. Праз два гады знікла таксама высокамастацкая копія, якая перахоўвалася ў Мар'інскім кафедральным касцёле.

У часы вайны праваслаўныя мянчане знайшлі цудадзейную Ікону Менскай Божай Маці. Гэтая рэлігійная, гістарычная і мастацкая святыня пяць гадоў знаходзілася ў дзіравым дрывотніку пры Гістарычным музеі. Затым святы абраз быў перанесены ў адноўлены Кацярынскі, а зараз Петрапаўлаўскі, сабор.

У тайніках музеяў, у запыленых падвалах знаходзяцца тысячы каштоўных прадметаў культу. Звычайна экспануецца ў сярэднім дзесятую частку ўсіх збораў. Гэта значыць, што дзевяць дзесятых ніхто ніколі не бачыў і не ведае, што з імі адбываецца. Гэта адначасова і адказ на пытанне, што значыць „агульнанацыянальная" ўласнасць і каму павінны належаць творы рэлігійнага мастацтва.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

 

## VIII ПАЛОМНІЦТВА НА СВ. ГАРУ ГРАБАРКУ 13—19.08.1994




**Увага!**
**Запрашаем на VIII Агульнапольскае пешае паломніцтва на Св. Гару Грабарку (Беласток — Св. Гара).**

* Нагадваем, што трэба адпаведна апранулца (асабліва дзяўчаты), узяць з сабою спальны мяшок, лыжку, кубак, талерку, посныя харчы, а таксама — па меры магчымасці — палатку.

* Забяспечваем аўтамашыны для перавозу багажу (не нясём матэрыяльнай адказнасці).

* Аплата — 100 000 зл. (значок, страхоўка, багагласнік, крыж, транспарт, арганізацыйныя кошты).

* Для ўдзельнікаў з малымі дзецьмі прадугледжана скідка.

* Аплату можна зрабіць на зборным пункце або пасля далучэння на шляху паломніцтва.

Іншыя інфармацыі можаце атрымаць у сваіх настаяцеляў.

Арганізатары

# Першае было нелегальнае

13 жніўня, як штогод, з прыхода Св. Прарока Ільі ў Беластоку-Дайлідах выйдзе чарговае паломніцтва ў Грабарку на Свята Праабражэння Гасподняга. Гэта ўжо афіцыйнае восьмае паломніцтва, але ў сапраўднасці яно дзевятае, якое выходзіць з Беластока. Варта ў гэтым месцы нагадаць, як складалася традыцыя гэтых паломніцтваў і чаму такая непаслядоўнасць у іх нумарацыі.

Калі восенню 1985 года была створана Епархіяльная рада моладзі (альбо Брацтва праваслаўнай моладзі) пры Беластоцка-Гданьскай епархіі, у лідэраў гэтай арганізацыі ўзнікла ініцыятыва арганізаваць пешае паломніцтва з Беластока на Св. Гару Грабарку. На жаль, тадышнія ўлады не далі дазволу арганізаваць паломніцтва ў жніўні 1986 года, тлумачачы гэта тым, паколькі добра памятаю, што ў гэтым жа больш-менш часе не дазволілі яны на рымска-каталіцкую пілігрымку ў Карыцін. Пасля размовы з Уладыкам Савам тадышні старшыня Епархіяльнай рады моладзі сумесна з групай найбольш актыўных сяброў вырашыў усё-такі арганізаваць паломніцтва. У сувязі з існуючым становішчам паломнікамі былі толькі члены маладзёжнага Брацтва, агулам 50 чалавек, якія добра ведалі адзін аднаго.

Паломніцтва пачалося ў Заблудаве з набажэнства, якое адправіў мясцовы настаяцель а. Мікалай Астапчук. Неслі мы з сабою тры крыжы і ікону. Спачатку ішлі мы палявымі дарогамі цераз Сольнічкі, Козлікі, Паўлы, Рыбалы, Войшкі, Плёскі, Райск і Гацькі. Потым ішлі шашою ў Бельск, а там па галоўнай вуліцы ў царкву Св. Архістраціга Міхаіла. У Бельску-Падляшскім нашае „існаванне" пабачылі на свае вочы адпаведныя спецслужбы. На другі дзень, пасля наведання ўсіх астатніх бельскіх цэркваў, пайшлі мы ў напрамку Кляшчэль. Пры выхадзе з Бельска паломніцтва сустрэў адзін з *царкоўных людзей* і паведаміў нам, што на дарозе чакаюць нас функцыянеры ў цывільным. Тады мы вырашыліісці ў Кляшчэлі цераз Орлю ды падзяліліся на тры групы, паколькі мы даведаліся, што групе, якая налічвае да 20 чалавек, не патрэбен дазвол. З таго дня ў Грабарку ішлі тры групы паломнікаў у пэўнай адлегласці між сабою і ў кожнай з іх уперадзе быў крыж, каб не было сумненняў, хто гэта ідзе. Сустрэча з функцыянерамі ў цывільным, а хутчэй за ўсё з іх фотаапаратамі, якімі рабілі паломнікам „партрэты", адбылася ў Мілейчыцах. Удзельнікі пілігрымкі, у сваёй большасці студэнты і вучні сярэдніх школ, не надта гэты факт прымалі да сэрца. Не спалохаліся фотааб'ектыва і тры семінарысты з Чэхаславакіі, якія прымкнулі да нас у Мілейчыцах. Трэба прыгадаць, што супрацоўнікі бяспекі наведалі некалькіх свяшчэннікаў і стараліся пераканаць іх, каб тыя паломнікаў не прымалі. Адзін са святароў сказаў ім проста ў вочы, што прынясць паломнікаў, накарміць іх і пераначаваць — гэта абавязак духоўнага.

З Мілейчыц бесперашкодна (ніхто ўжо нас не трывожыў) дайшлі мы на Св. Гару Грабарку. Гэтае паломніцтва многім яго ўдзельнікам назаўсёды засталося ў памяці. Падарожжа было цяжкае і ўтомнае. Кожны сам нёс свой багаж, а некаторыя нават і палаткі. Нягледзячы на ўсе перашкоды і нягоды, маладыя паломнікі былі як адна сям'я.

У 1987 годзе адбылася ўжо I — афіцыйнае — Паломніцтва, на якое ўлады далі дазвол.

У гэтым годзе ўпершыню паломніцтва з Дайлід не пойдзе ў Заблудаў, але вуліцамі Журавяй і Цялкоўскага накіруецца ў квартал Новае Мяста, а далей у Юхнавец і Кажаны, дзе паломнікі перасякуць раку Нарву, каб цераз Плюцічы дайсці ў Райск.

На зборным пункце ў Дайлідах трэба быць а гадзіне 8. Трасу паломніцтва і ўмовы ўдзельніцтва ў гэтым шэсці друкуем побач. Арганізатары звяртаюць увагу на адпаведную вопратку і нагадваюць не апранацца ў кароткія штаны (шорты) і т. п., паколькі гэта не турыстычны паход і не экскурсія, а толькі паломніцтва, якой галоўны сэнс заключаецца ў малітве. Багаж, нягледзячы на магчымасць яго транспарту на аўтамашынах, некаторыя паломнікі рашаюцца самі несці на сваіх плячах і варта, каб моладзь памятала аб гэтым.

С. Н.

## УСПЕНСКІ ПОСТ

14 жніўня (1.08 па старому стылю) пачынаецца пост, які рыхтуе нас да Свята Успення Прасвятой Багародзіцы. Канчаецца ён 27 жніўня і з'яўляецца адначасна знакам пашаны Багародзіцы, якая сваё жыццё праводзіла ў посце і малітве. У сувязі з вялікім святам Праабражэння Гасподняга, якое прыпадае на перыяд гэтага посту, яго лічаць сродкам духовага ачышчэння і прасвятлення.

Па сваёй строгасці нагадвае ён Вялікі Пост. У час Успенскага посту алей дазваляецца спажываць толькі па суботах і нядзелях, а рыбу — выключна на Праабражэнне Гасподняе.

Пачатак Успенскага посту — гэта адначасна свята Вынясення дрэў Слаўнага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга як успамін сілы Святога Крыжа. У гэты дзень на ютрані Крыж выносіцца для пакланення, а пасля Літургіі — для асвячэння вады. У той жа дзень адзначаецца святкаванне Усяміласцівага Спаса і Прасвятой Багародзіцы на памяць цудоўных знакаў — праменняў, якія разыходзіліся ад ікон Багародзіцы з Дзіцяткам Хрыстом і накрывалі грэчаскія (імператар Мануіл) і рускія войскі (князь Андрэй Багалюбскі), што незалежна ад сябе ў той самы дзень з поспехам змагаліся з ворагамі.

14 жніўня ўспамінаем таксама святых Мучанікаў Макавеяў — сямёра братоў, іх маці Саламею і настаўніка Елеазара — яўрэяў, якія пакутніцкай смерцю загінулі ў 166 г. да Нараджэння Хрыста па загаду сірыйскага цара Анціёха IV за тое, што не перайшлі на язычніцтва, а толькі захавалі веру ў сапраўднага Бога.

С. Н.



*Першае афіцыйнае паломніцтва — 1987 год.*

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

**BARANIEC Gieorgij, MARTISZONOK Galina**: Potencjał historyczno-kulturowy i perspektywy rozwoju małych historycznych miast na Białorusi. Tł. z ros. *Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej, Architektura* 1993, z. 10, s. 89—102, rys.

**BIAŁOKOZOWICZ Bazyli**: Franciszek Skoryna w ujęciu Mikołaja Jańczuka. *Slavia Orientalis* 1993, nr 2, s. 313—325. Rez.

**CZYKWIN Jan**: Nie wstąpię drugi raz do tej rzeki... Rozm. przepr. Teresa Zaniewska. *Integracje* 1993, cz. 29, s. 87—89, il.

Etnohrafija Belarusi — encyklopedyja. Minsk 1989; Rec. **FRYŚ-PIETRASZKOWA Ewa**, *Lud* 1992, t. 75, s. 255—258.

**HLEBOWICZ Adam**: O zabytkach sakralnych na Białorusi. *Ład* 1994, nr 12, dod. s. III, il.

**JANOVIČ Alena**: Stylistyka tekstaŭ skaryninskich pradmoŭ. *Stylistyka* 1993, t. 2, s. 87—99.

**JANOWICZ Sokrat**: Pisarz pogranicza. Sytuacja białorusko-polska. *Kresy* 1993, nr 13, s. 204—208.

**JANOWICZ Sokrat**: Zamyślenie w podróży. — Moja przestrzeń. Tł. z białorus. Anna Sobecka. *Integracje* 1993, cz. 29, s. 86.

**JANOWICZ Sokrat**: Ziemia nie pamiętanego proroka. *Teatr* 1994, nr 1, s. 4—7, il.

**JODO Irina**: System rozmieszczenia małych miast na Białorusi. Tł. z ros. *Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej, Architektura* 1993, z. 10, s. 103—106, rys.

**KONDRACKI Jerzy**: Fizyczno-geograficzna regionalizacja Republik Litewskiej i Białoruskiej w układzie dziesiętnym. *Przegląd Geograficzny* 1992, z. 3/4, s. 341—346, rys. tab. Sum.

**MOROZOW Igor**: Mińsk — Białystok. Architektoniczny wyraz trasy. Tł. z ros. *Zeszyty Naukowe Politechniki Białostockiej, Architektura* 1993, z. 10, s. 69—71, rys.

Nemirovskij Evgenij: Francysk Skorina. Minsk 1990; Rec. **SIELICKI Franciszek**, *Studia o Książce* 1993, t. 19, s. 186—188.

**PIETRZYK Zdzisław**: Książka z biblioteki Szymona Budnego. *Kieleckie Studia Historyczne* 1993, t. 11, s. 57—61.

**POLSKIJ Spartak**: Katolicy w Republice Białoruś. Tł. E/wa/ Matuszczyk. *Pogranicze* 1993, t. 3, s. 37—47, tab.

**POŹNIAK Telesfor**: Pseudonimy pisarzy białoruskich. Próba klasyfikacji. *Slavia Orientalis* 1993, nr 2, s. 297—311. Rez.

**SIELICKI Franciszek**: Folklor białoruski w czasach I Rzeczypospolitej. *Slavia Orientalis* 1992, nr 3, s. 61—68. Rez.

**SIELICKI Franciszek**: Franciszek Skoryna o nauce polskiej. *Studia o Książce* 1993, t. 19, s. 113—130. Res. Rez.

Skaryna i jaho epocha. Minsk 1990; Rec. **SIELICKI Franciszek**, *Studia o Książce* 1993, t. 19, s. 182—185.

**TANK Maksim**: Dzisiaj często pytam sam siebie (w). — Na pogrzeb rzeki (w). — Tak jakby zadźwięczała piosenka (w). — O filozofach (w). — Niegdyś starczyło mi (w). — Może trzeba by było (w). — Było to tamtej jesieni (w). — I w mojej Pil-kowszczyźnie (w). — Odlatując na wyraj (w). — Jak można było w spisie (w). — Idzie niewidomy z kosturem (w). Tł. Wiktor Woroszylski. *Kresy* 1993, nr 13, s. 125—130.

Turonek Jerzy: Wacław Iwanowski i Odrodzenie Białorusi. Warszawa 1992; **BIAŁOKOZOWICZ Bazyli**, *Dziś* 1993, nr 4, s. 126—130.

**ZANIEWSKA Teresa**: Podróż daremna. (Muza krajobrazu w poezji Jana Czykwina). *Kresy* 1993,-nr 13, s. 200—204.

**ZANIEWSKA Teresa**: Pamięć i trwanie. (Białoruski ruch literacki „Białowieża"). *Integracje* 1993, cz. 29, s. 77—79.

P. C.



 

## „ЗЛАЯ БАБА"

— Ты пойдзеш за гэтага Шыпулю? — раскрычалася старая Дарка. — Вось дык знайшла сабе кавалера! Зямлі пядзя, а іх двух. Іхняя Шыпулянка паехала на захад настаўнічаць, а якая ж з яе там настаўніца!

— Чаго вы, цётка, раскрычаліся? — здзівілася Танька. — І мы ў горад паедзем, што нам тут рабіць?

— Што?! Ой, не-не! Гляньце, яшчэ і ёй у горад захацелася! Будзеш там з малым кошычкам хадзіці, на рыначку купляць сыр ды масла. Гаспадарская дачка?!

Усе ў вёсцы добра ведалі, што Дарка — „злая баба". Як да кагосьці прычэпіцца, то не пашкадуе, вызаве ад найгоршых, абняславіць. Найболыш ненавідзела „галечу". Найбяднейшыя ў вёсцы былі сыны старога Якіма. Зямлі ў іх, сапраўды, не было шмат. Жылі бедна, але людзі былі добрыя. Чаго толькі старая Дарка пра іх не нагаварыла! А ўжо сцярпець не магла таго, калі старэйшы, Сцяпан стаў заляцацца да Танькі, яе братанкі. Выхоўвала яе — маці Таньчына памерла, бацька цяжка хварэў.

Цётка штодзень лаяла Таньку. Дала прысягу, што ў дзень магчымага вяселля Танькі са Сцяпанам аблие іх памыямі. Дзяўчыне абрыдла ўсё гэта і сказала каханаму, што за яго не пойдзе, бо цётка не дасць ім жыць.

Сцяпан прасіў, каб нарачоная з'ехала з ім у горад, знойдуць там сабе працу (пасля вайны ж свет для ўсіх стаў адкрыты), там возьмуць шлюб. Танька пабаялася, што загінуць там, сярод чужых. Сцяпан паехаў адзін.

Лістоў не пісаў. Думаў, не варта. Ведаў, што Танька хутчэй паслухае цётку і ёй уступіць. Стаў на працу токарам, пазнаёміўся з мілай дзяўчынай. Запланавалі пабрацца шлюбам.

Пасля выезду Сцяпана да Танькі пачаў хадзіць Васіль. Гаспадарскі сын, як хацела старая Дарка. Прыгожы быў Вася, але з характару не найлепшы. Злосны, нагаворыць абы-чаго, а потым просіць прабачэння. Дарка меркавала, што мужчына такі і быць павінен, а справа бабы — яму дагадзіць.

На Каляды прыехаў Сцяпан. Прыйшоў на танцы прыгожа апрануты. Танцаваў толькі з Танькай. Пасля правёў яе дадому. Тыдзень сустракаліся.

— Танька, пайшла б ты за мяне замуж?

— Пайду. Абы толькі ты мяне ўзяў! — уцешылася дзяўчына.

— Ужо запозна. Праз тыдзень у мяне вяселле з Люцынай. Не трэба было табе слухаць цёткі, — хлопец пацалаваў Таньку і пайшоў.

Дзяўчына ўсю ноч праплакала. На другі дзень Вася прыслаў сватаў. Танька баранілася, не хацела, але Дарка пераканала яе ў добрым выбары. Перад Вялікім постам згулялі вяселле.

І Вася, і ягоная матка трактавалі Таньку горш чым простую рэч у хаце. Часта прыйшлося хадзіць ёй у сіняках і галоднай. Грошай не бачыла на вочы. Вася пачаў хадзіць па другіх.

Нарадзіла сына. Вася быў спачатку рады патомку, але пасля пачаў яго ноччу дражніць ягоны плач.

Танька захварэла. Лекары сказалі мужу: сухоты. Параілі добра карміць жонку, адправіць яе ў санаторый — толькі гэта магло яе выратаваць.

— Толькі з ёю няньчыцца, як з малым дзіцём! — злаваўся Васіль.

— Чорт яе не возьме, — сказала цешча. — Хай толькі яе выпішуць з бальніцы!

І пачалося — непасільная праца, паўгалодная страва. Танька адчувала, што незадоўга памрэ. Шкада было толькі маленькага Яська.

Аднойчы страціла прытомнасць. Трохгадовы сынок загаласіў, што маці забілася. Вася прыбег у агарод, убачыў жонку ляжачую ніцма і пабег пазваніць па лекара. Таньку забралі ў бальніцу. Памерла праз два дні.

Пахавалі яе ўсёй вёскай.

Прыехаў аднойчы Сцяпан з жонкай і маленькай дачушкай.

— Тата, а як Таньцы жывецца? — пацікавіўся за абедам.

— Мы ёй прывезлі падарунак, — сказала Люцына.

— А нашай Танькі няма ўжо ў жывых.

Падвечар Сцяпан з жонкай занеслі кветкі на Таньчыну свежую магілку. Памаліліся за яе душу. На ўсё іншае было ўжо запозна...

**АЎРОРА**

## ДЗЯКУЮ ТАБЕ, АДА!

Шчыра дзякую табе, Ада, што ты зноў паказалася на старонках „Нівы"! Можа, раней ты падалася ва „ўнутраную эміграцыю"? Вядома, гэта жарт, але бракавала нам ужо прыгожага, квяцістага, аб'ектыўнага, прафесійнага рэпартажа з культурных мерапрыемстваў з нашага асяроддзя. І інтэрв'ю. Героі тваіх тэкстаў становяцца нам блізкімі. Усё ў адпаведнай прапорцыі.

Члены хораў, музычныя калектывы, іхнія кіраўніцтвы, пісьменнікі гэта ў большасці грамадскія арганізатары нашага культурнага жыцця. Коштам свайго свабоднага часу збіраюцца яны на рэпетыцыі, выязджаюць на выступленні, часта за свой кошт і на сваім транспарце. Яны — паслы нашай культуры. За гэтую справу належыцца ім ад нас удзячнасць і словы падзякі. За прыгожую песню, танец, верш, кніжку, апавяданне. І трэба пісаць пра гэта на старонках нашых беларускіх часопісаў, каб людзі ведалі пра тых, хто стварае нашую культуру, дае нам і сабе многа радасці. Не раз убачыш у вачах людзей з публікі слёзы радасці з сустрэчы: прыязджайце як найчасцей, даражэнькія! Такія сустрэчы ў вёсках, у мястэчках, на лясных палянах — сапраўднае духоўнае яднанне ўсіх нас. Вялікі дзякуй выканаўцам і арганізатарам такіх сустрэч! А хто можа пра гэта напісаць? Толькі журналіст.

Ну, цяпер пра недахопы. Найбольш у грамадскіх дзеяннях. Канструктыўная крытыка нам найбольш патрэбная. Але, у адпаведных прапорцыях, без жоўці, злосці, з культурай. Жадаю табе, дарагая Ада, каб твае артыкулы былі заўсёды ўзорам для тых, хто з сэрцам падыходзіць да культуры!

**МІХАЛ ГОЛУБ**

## Аб чым гавораць лічбы?

З гістарычных дакументаў вядома, што Сямяцічы знаходзіліся на рухлівым шляху з Драгічына цераз Высокае-Літоўскае ў Менск. Яны вядомыя ўжо ў пачатку XV стагоддзя. Пра паходжанне назвы ёсць некалькі навуковых гіпотэз.

Ігнацы Гілеўскі, аўтар папулярнай манаграфіі пра мястэчка падае дзве магчымасці ўзнікнення назвы Сямяціч: першая — ад *сям'і Пчаў* (Тычаў) і другая — звязаная са стараславянскім значэннем слова *тіча* альбо *тыча* (дарога), гэта абазначала б, што Сямяцічы ўзялі сваю назву ад сямі дарог. Гэтая этымалогія назвы Сямяцічы пратрымалася да XX стагоддзя.

Юзэф Вольф, аўтар манаграфіі пра літоўска-рускіх князёў з канца XIV стагоддзя, мяркуе, што горад узяў назву ад ранейшых уладальнікаў князёў Осемятычаў. І гэтая апошняя версія здаецца найбольш дарэчнай.

У рукапісных дакументах з другой паловы XVIII стагоддзя можна прачытаць, што ў 1793 годзе ў Сямяцічах было 26 вуліц, 300 дамоў і 3 500 жыхароў: палякаў, беларусаў і яўрэяў. Займаліся яны гандлем, рамяством і сельскай гаспадаркай. З 1750 года ўладальніцай горада стала Анна Ябланоўская, дачка князя Казіміра Сапегі і Караліны Радзівіланкі. Выйшла яна замуж за брацлаўскага ваяводу Яна Каетана Ябланоўскага. У той час Сямяцічы хутка разбудоўваліся: паставілі, між іншым, ратушу, школу, бальніцу, друкарню, заезны дом (карчму).

У 1800 годзе горад налічваў 320 дамоў і 3 560 чалавек. Быў ён тады найбольшым горадам у Беластоцкім дэпартаменце.

У 1861 годзе ў Сямяцічах пражывала 6 150 чалавек.

У 1921 годзе горад на Камёнцы налічваў 5 700 жыхароў, у 1931 годзе — 6 800 і напярэдадні другой сусветнай вайны, у 1939 годзе — 8 140 асоб, у тым ліку 2 660 католікаў, 1 160 праваслаўных і 4 320 яўрэяў.

У 1946 годзе насельніцтва Сямяціч складала 3 550 чалавек, у 1950 годзе — 3 800 і ў 1964 годзе — 5 600 жыхароў.

**ЯНКА**

## У БЕЛАВЕЖЫ

14 ліпеня выбраўся я ў Белавежу. Як вядома, цягнікі з Бельска ў Гайнаўку і ў Белавежу не ездзяць — замяняе іх аўтобус. Такі аўтобус прыехаў а гадзіне 9.25 на вакзал у Бельску і забраў нас, жменьку людзей у Гайнаўку. Па дарозе заязджаў на ўсе чыгуначныя прыпынкі, але нікога не браў, бо нікога на тых прыпынках не было. Так даехаў я ў Гайнаўку, а там праз паўгадзіны сеў на другі аўтобус і паехаў далей. Недзе каля поўдня дабраўся я ў Белавежу і адразу пазваніў Пятру Байко, якога ўжо тры гады не бачыў.

Пасля сардэчнага прывітання пайшлі мы да дуба, на якім відаць выяву галавы. Калі падышлі бліжэй, Пётр сказаў, каб дакрануцца кісцю рукі да дуба. Я даткнуўся і пачуў выпраменьванне, а пасля паглядзеў уверх, дзе была зрэзана галіна. Пётр прыгадаў, што ўжо б разоў замалёўвалі гэты зрэз, каб не было нічога відна. Мы адышлі крыху, я глянуў і ўбачыў выразныя вочы і нос: людзі гавораць, што там антыматэрыя.

Потым мы наведалі галерэю мастачкі Тамары Тарасевіч. Будынак агароджаны прыгожым плотам: знізу і зверху акараваныя жэрдкі, а паміж імі — бярозавыя колы, адно пры адным, як пацеркі. Усярэдзіне сустрэў нас Сяргей Тарасевіч, які паказваў нам карціны з пушчанскімі краявідамі, а таксама, у адным з пакояў, экспанаты хатняга карыстання: жорны, ступы, прасы на драўнінны вугаль, бочачкі, каробкі і іншае. Гэта не толькі галерэя жывапісу, але і беларускі этнаграфічны музей. Абавязкова трэба зайсці і пагля́дзець!

Пасля пайшлі мы ў парк, дзе я ўбачыў зарослую сажалку, поўную жабурыння. Ніхто яе не чысціць. Берагі зарастаюць травою і вады меншае: калі б цар гэта пабачыў, перавярнуўся б у магіле! Турысты здзіўляюцца таксама, што парк такі запушчаны і ніхто ім не клапоціцца. Таксама і вакзалы ў Белавежы і ў Гайнаўцы, нядаўна пабудаваныя, зарастаюць травою. І рэйкі ржавеюць, і няма каму паклапаціцца, каб цягнік зноў ездзіў у Гайнаўку і ў Белавежу.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

### Частка XIX

На працягу ўсяго пасляваеннага перыяду пастаянным матывам савецкай прапаганды было сцвярджэнне, што „амерыканскія імперыялісты і іх паслугачы — беларускія эмігранты — рашучыя ворагі міру на зямлі і яны гатовы пхнуць свет у абдымкі трэцяй сусветнай вайны". Розныя варыянты такога тыпу прапаганды прысутнічалі не толькі ў публіцыстыцы, у прамовах палітыкаў, але таксама і ў творчасці многіх беларускіх савецкіх пісьменнікаў.

Зразумела, што Уладзімір Клішэвіч, маючы ў Амерыцы свабодны доступ да беларускай савецкай перыёдыкі і літаратуры, дасканала ведаў характар савецкіх абвінавачванняў, кіраваных у бок беларускай эміграцыі.

У неасавецкі перыяд творчасці паэт пастанавіў даказаць, што ён не заслугоўвае на адмоўныя ацэнкі і што яго асоба не можа быць павязана з ваеннымі імкненнямі. Самарэабілітацыяй заняўся ён у вершы „Сябрам", у якім адназначна прыхіляецца да савецкай ідэі „абароны міру ва ўсім свеце".

Вось гэты верш

*СЯБРАМ*

*Свежасць думак не завяне,*
*Аж пакуль я не памру.*
*Вам сардэчнае вітанне,*
*Аднадумцам па пяру.*

*Падніму вышэй я чарку*
*За сталом паміж сяброў,*
*Каб крумкач крыві не каркаў,*
*Атам смерці не зароў.*

*Ад крыві зямля прамокла —*
*Войны страшныя былі.*
*Усё зрабі, каб меч Дамокла*
*Не пужаў людзей зямлі.*

*Кроч дарогай чыстай белі,*
*Свае рукі к міру гні,*
*Каб жывыя не гарэлі*
*У раздзьмуханым агні.*

*Свежасць думак не завяне*
*І тады, як я памру.*
*Вам сардэчнае вітанне,*
*Аднадумцам па пяру.*

Верш гэты прыводжу поўнасцю таму, што ён з'яўляецца вельмі істотным дакументам, які сведчыць аб характары мастацкай і палітычнай эвалюцыі пісьменніка. Калі б я не ведаў, што напісаў яго Уладзімір Клішэвіч, дык напэўна катэгарычна сцвердзіў бы, што ўзнік ён у БССР „у разгары барацьбы беларускага народа за мір", а не на эміграцыі. Паэт зрабіў усё, каб поўнасцю атаясаміцца ідэйна з савецкімі пісьменнікамі. Асабіста маю найбольшыя прэтэнзіі да аўтара не за змест твора, бо выказаныя ў вершы палітычныя ідэі — гэта справа паэта, не мая, а толькі за яго форму. Публіцыстычная ў ім фразеалогія, спрошчаная палітызаванасць, лірычны прымітывізм, агітацыйныя заклікі адводзяць верш вельмі далёка ад таго, што называем паэзіяй і набліжаюць яго да чыстай прапаганды.

Праўдападобна, верш гэты быў спробай самарэабілітацыі, формай самаапраўдання або формай адрачэння ў адносінах да тых думак, якія выказаў паэт у 1946 годзе падчас знаходжання ў Германіі ў вершы „Дай мне, сябра". Прыгадаем фрагмент гэтага верша.

*Дай мне, сябра, сягодня харошую*
*Чарку вып'ем з табою да дна.*
*Замяло нам дарогу парошаю,*
*А дарога ў магілу адна.*
*Не жадаю на свеце нічога я,*
*Толькі выпіць ад смагі віна.*
*Хай жыве і красуецца трэцяя*
*На зямлі між людзямі вайна.*
*Зноў навокал пажар расцягнецца.*
*К небу ўстануць агні-языкі.*
*Згіне ўсё у вар'яцкай мяцеліцы, -*
*Застануцца адны мерцвякі.*

Калі б такога тыпу верш напісаў нехта з савецкіх беларускіх паэтаў у час сталінізму, несумненна павандраваў бы за краты, а можа і ў магілу.

Нават пры вялікім лібералізме ў ацэнцы творчасці паэта трэба сказаць, што нялёгка паверыць у тое, што прыведзеныя абодва вершы выйшлі з-пад рукі аднаго паэта. З'яўляюцца яны сведчаннем таго, што Уладзімір Клішэвіч прайшоў доўгі эвалюцыйны шлях і што яго вершы неасавецкага перыяду яскрава пярэчаць характару творчасці „нямецкага" перыяду.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. эфірнаалейная расліна, 8. вялікі камень, 9. даследчык Акініі (1603—59), 10. рыбны суп, 11. збянтэжанасць, 13. порт у Латвії, 15. руднік, 16. вялікі эпічны твор, 20. апарат для дыхання чалавека пад вадой, 22. агародная расліна, 23. лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў 1964 г., французскі філосаф, 27. мястэчка каля Салігорска, 29. аперэтны танец, 30. ежа з яек, 31. горад у Палессіне, 32. беларускі гімнаст, 33. горад на поўначы Беларусі, 34. калючая кветка.

**Вертыкальна:** 1. канаўка за плугам, 2. змяя, 4. патомак, 5. сплаў жалеза з вугляродам, 6. горад на поўначы Беларусі, 7. штучнае рэчышча, 12. трапічная жывёла, якая знішчае ядавітых змей, 14. драўляная інкрустацыя, 16. алейная расліна, 17. туды імкнуцца, 18. афрыканская дзяржава з Кіншасай, 19. мужчынскае імя, 21. яма з вадой, 24. малакроўе, 25. балоцістая прастора ў зоне арктычнага пояса зямнога шара, 26. ежа, корм (мн. л.). 27. верхняе покрыва цела чалавека або жывёлы, 28. гараж для самалётаў.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 26 н-ра:** кардон, Дзвіна, Італія, лайдак, аснова, снягір, Байкал, свечка, чэркес, кіргіз, гульня.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Пятру **Байко** з Белавежы і Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх.

**МІНІ-ДАВЕДНІК:**
**Тасман** — галандскі мараход.

# ЛЯЧЭБНЫЯ ЎКЛАДЫШЫ

Біяэнергатэрапеўт Казімір Пятровіч вынайшоў новы спосаб аздараўлення хворых. Гэта ўкладышы да абутку, выкананыя са спецыяльнага рэчыва, якое, паводле К. Пятровіча, ізалюе ступні ад негатыўнай радыяцыі зямлі. Аўтар вынаходства ездзіць па краіне са сваёй навінкай. Быў ён і ў Ольштыне, дзе між іншым сказаў:

— Дзякуючы ўкладышам, нервовыя рэцэптары на ступнях дзейнічаюць як тэрмастаты, не дапускаючы ні да пераахаладжэння, ні да перагрэву арганізма. Узнікае цеплавы стымул, які ўплывае карысна на кровазварот і папраўляе цыркуляцыю кіслароду, што ў сваю чаргу спрыяе абмену матэрыі і выдзяленню арганізмам шкодных рэчываў. Вырашальным момантам для прымянення ізаляцыйных укладышаў стала ўстанаўленне, што для здароўя неабходны закрыты кругазварот энергіі ў арганізме чалавека і паўторнае яе выкарыстанне. Распрацоўка ўкладышаў прадаўжалася 5 гадоў; іх уздзеянне кансультавалася і з лекарамі, і з экстрасэнсамі. Вынікі прымянення ўкладышаў перайшлі найбольш смелыя спадзяванні. Дзесяцігадовую дзяўчынку чакала пункцыя насавой поласці, але пасля сутак нашэння ўкладышаў лобная пазуха самабытна ачысцілася. Расшырэнне вен у многіх людзей мінае пасля трох тыдняў; вянозныя болі ўступаюць пасля 5 дзён. Згустак крыві ў жылах прападае пасля месяца, сімптомы астмы — пасля двух тыдняў. Боль сэрца сунімаецца пасля 10 гадзін, уступае параліч цела, курыльшчыкі гідзяцца папяроснага дыму, знікае алергія, а болі галавы, якія прадаўжаліся 10 гадоў, прападаюць. Былі нават такія хворыя, якія 10 гадоў не бачылі, а цяпер ім зрок вярнуўся, што пацвердзілі спецыялісты. Добры вынік дае прымяненне ўкладышаў у дзяцей, хворых цэрэбральным паралічам; многія з іх, упершыню абуўшы ўкладышы, адразу пачалі хадзіць. Цяпер укладышы сталі папулярнымі не толькі ў Польшчы, але і ў Еўропе, і ў Амерыцы, а нават у Японіі.

К. Пятровіч засцерагае аднак, каб не адказвацца ад апекі лекараў і прымяняць укладышы паралельна з нармальным лячэннем. Трэба помніць, што гэта не лякарства, а толькі ўкладышы, якія ў любую хвіліну можна выняць з абутку (і выкінуць).

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

# З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21 і 31 н-рах)*

**(3)**

Па вяселлях спяваліся розныя песні. І вясёлыя, і сумныя. Надзея Руско прапануе, як прыклад, жартоўную песню (а хутчэй, прыпеўку) пра свата і пра Марысю, якая не стрымала свайго абяцання маладому казаку, за што і была ім страшна пакарана.

* * *

Ой, сваце, сваце,
добра гарэлка,
будземо піці
да панядзелка.
А з панядзелка,
той і ваўторак,
вып'емо сваце
шчэ румок сорак.

* * *

А у Марысі у сенях на памосці
прыехалі, прыехалі, тры казакі ў госці.
Адзін кажэ, я Марысю люблю.
Адзін кажэ, я Марысю люблю.
Другі кажэ, я Марысю вазьму.
Другі кажэ, я Марысю вазьму.
Трэці кажэ, на ручніку стану.
Трэці кажэ, на ручніку стану.
Захацела Марыся заморскага зелля.
А хто мне таго зелля дастане,
той са мною на ручніку стане.
Адазваўся казак маладзенькі,
адазваўся казак маладзенькі.
Стаў вон тое зелячко капаці,
над нім стала зазулька каваці.
Ні капай ты, казачэньку, зелле,
бо ў Марысі, бо ў Марысі,
в хаце вжэ вaселле
Ой, прывёз жэ казачэнько зелле,
а ў Марысі, а ў Марысі,
в хаце вжэ васелле.
Зайграйце усе музыканты,
я з Марысею, я з Марысею,
пайду ў танцы.
У казака шабля заблісцела,
у Марысі, у Марысі,
галоўка зліцела.

Запісаў ПЁТР БАЙКО

# ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

## Дадатковая паша

Усё яшчэ ў нашых землеробаў слабой папулярнасцю карыстаюцца пажнўныя культуры, гэтак званыя „паплёны", а яны ж павінны павышаць колькасць пашы.

**Паржышчавыя культуры.** Пасля ранняга і нармальнага збору, напрыклад, азімага жыта можна пасеяць сырадэлю ці адпаведную для нашых кліматычных умоў у вяваводстве алеістую радыску.

Калі толькі спрыяюць кліматычныя ўмовы (няма засухі), дык трэба паставіць лушчы скошанага жыта на адным загоне, а свабоднае поле ў тэрміне да трох дзён заараць і пасеяць указаную культуру як „паплён". Пры гэтым трэба даць глебе крыху фосфарных і калійных штучных угнаенняў. Насення высяваем крыху больш, чым звычайна.

Не толькі, зрэшты, сырадэля і радыска прыгодныя на паржышчавыя культуры. Можна сеяць таксама лубін (на пашу і на прыаранне), усякай пароды віку і пялюшку.

**Азімыя культуры на пашу.** З'яўляюцца імі расліны, сеяныя пасля ўборкі асноўнай культуры, прычым сабіраюць іх ранняй вясною наступнага года. Азімыя „паплёны" перш за ўсё даюць зялёную пашу ранняй вясною.

На азімы „паплён" найлепш надаецца мяшанка азімай вікі з азімым жытам. Вырошчваць трэба на полі не падмоклым і не вельмі сухім, а таксама не на цяжкай глебе. Сеяць можна да канца жніўня. Добрым месцам з'яўляецца поле з-пад сабранага жыта.

ЯСЕНЬ

# ГАРАСКОП ДРУІДАЎ

**5**

**КЕДР**, *(9—18 лютага, 14—23 жніўня).* У нашым уяўленні кедр звычайна звязваецца з сібірскім краем. І сапраўды, там растуць кедры сібірскі, карэйскі і кедравы сланік, нізкі хмызняк, галінкі якога сцелюцца па зямлі. Яго можна напаткаць на схілах гор, уздоўж узбярэжжа і сярод тундры ў зоне вечнай мерзлаты. Заралі кедра даюць харч і прытулак дзічыне. Магутныя, каржакаватыя, стойкія на халады і шчодрыя на арэхі сібірскія кедры. Магчыма, і пераняці нешта ад гэтых дрэў старажытныя насельнікі Сібіры. Але кедры, што растуць там, толькі так называюцца. Навукоўцы лічаць іх хвоямі. А сапраўдныя кедры растуць на Каўказе, у Крыме і ў Сярэдняй Азіі, у Гімалаях, у Паўночнай Амерыцы, а таксама ў краінах ля Міжземнага мора. Менавіта з тымі кедрамі і сутыкнуліся кельцкія жрацы. Ядомага насення, як хвоі з Сібіры, яны не маюць.

Для друідаў гэтыя дрэвы адпаведныя людзям, што нарадзіліся 9—18 лютага і 14—23 жніўня. Яны ўпэўненыя, аж да самаўпэўненасці, рашучыя, любяць гаварыць, выступаць, вырашаць праблемы і бліснуць. Кедр інтэлігентны, здольны і працавіты. Верыць у свае сілы, часовая няўдача яго не палохае, але ён пыхлівы і ганарысты.

*(працяг у наступным нумары)*

# ГАЛКА ДОМА

Сарокі і галкі павінны жыць у кронах дрэў, а не разам з чалавекам. Часам, аднак, здараецца, што маладыя ці хворыя птушкі патрабуюць нашай дапамогі. Калі я прыехаў адпачываць у Відава, убачыў галкі ў коміне хаты. Трэба паліць у печы, а дым не ідзе. Я ўвесь тыдзень не варыў, калі ўбачыў адну малую апераную галку ў коміне. Паляціць, тады гняздо выкіну, падумаў я. Калі адкрыў фортачку, малое выскачыла і пачало бегаць па гары, а яго маці, якая сядзела на коміне, нарабіла многа крыку. Карміць і назіраць буду, — рашыў я. Калі бярэш дадому такога нешчаслівца, мусіш лічыцца з тым, што наш падапечны ніколі ўжо не будзе здольны жыць на свабодзе: не здабудзе сабе корму, страціць неабходную ў натуральным асяроддзі боязь перад чалавекам і драпежнікамі, а калі гэта стадная жывёла — супляменнікі не прымуць яго ў сваю чараду. Сярод маладых птушак, якія найчасцей знаходзяць прытулак у людзей, вялікую групу складаюць птушкі з сямейства крумкачовых, да якіх належаць м.інш. груган, варона, сарока і галка. Гэта даўгавечныя і інтэлігентныя птушкі, якія лёгка дастасоўваюцца да жыцця ў хатніх умовах, дзе даволі добра сябе адчуваюць. Ядуць амаль усё: зерне і ўсякія адпадкі; здараецца, што ловяць мышэй і меншых птушак. Яны руплівыя і цікаўныя, маюць вялікія гукаперайманыя здольнасці, могуць лёгка вымаўляць па некалькі слоў у залежнасці ад сітуацыі (мая галка, калі хацела есці гаварыла „дай"), рэагуюць на сваё імя і прылятаюць на кліч. Мая галка ахвотна сядае на плячо. Трэба тут аднак памятаць, што ніхто яшчэ не ўмее навучыць птушак чысціні, і таму трэба на плячо пакласці стары ручнік або чыстую анучку. Калі птушка астаецца дома сама, можа ў хуткім часе завесці такі „парадак", што пасля прыйдзецца доўга прыбіраць. На час адсутнасці варта замкнуць любімца ў прасторную клетку і добра закрыць, бо яны дасканала адкрываюць усякія зашчапкі, кручкі ці скобкі. Клетку трэба высыпаць пясочкам або пілавіннем, якія трэба мяняць некалькі разоў у тыдзень. Павінны ў ёй быць добра замацаваны посуд з вадою, неакараваныя жэрдкі і цацкі. Птушкі сямейства крумкачовых вельмі любяць гуляць і асабліва цэняць усякага роду бліскучыя дробязі, а таксама званочкі і бразготкі. Такую бразготку для галкі лёгка зрабіць самому, улажыўшы некалькі гарошын у пластмасавую каробку з-пад фотаплёнкі. Найчасцей да людзей трапляюць маладыя птушкі — іх трэба карміць свежым белым сырам і кукурузнаю мукою; старэйшыя птушкі ядуць чарвякоў, а таксама арэхі, якія раздзёўбваюць сваімі моцнымі дзюбамі.

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК



**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

Індура, Лунна... Прыгожыя назвы вёсак непадалёку ад Гродна.

Упершыню пачуў іх у раннім юнацтве, са старонак вялікага патрапанага аднатомніка Усевалада Крастоўскага, дзе апроч любоўных вершаў („Андалузская ноч горяча, горяча...", „Ванька-ключник" і іншае), апроч рамана „Деды" былі яшчэ цікавыя і вясёлыя нататкі афіцэра гродзенскага, здаецца, драгунскага палка.

Лунну потым я ўбачыў. Там і пачуў ад незнаёмага дзядзькі пра красу гэтай мясціны над Нёманам:

„Здаецца, браце, і хлеба трэба менш — так хораша!"

А Індура дагэтуль застаецца невядомай мне, гучаннем сваім загадкава, экзатычна прыгожай.

Ды вось пачуў, як недзе там, у адным з калгасаў, выступаў у клубе сталічны лектар. Памучыў стомленых людзей нудотай усім вядомага з радыё, тэлевізара і газет, а тады яшчэ папрасіў задаваць пытанні.

І нейкі весялун спытаўся:

„Скажыце, калі ласка, а якое цяпер становішча ў Індуры?"

Таварыш лектар на момант задумаўся. „Індура... Індзіра... Індыя..." Відаць, гэта штосьці з трэцяга свету... І ён пачаў: як яна, тая Індура, пасля вызвалення... пры дапамозе... крочыць наперад...

Пра смех у зале мне сказана не было, аднак ён, трэба думаць, быў.

**ЯНКА БРЫЛЬ**

# СЭНТЭНЦЫІ

Сэнс маёй прысутнасці настолькі далёкі, што не хопіць дзён, адведзеных мне, каб зразумець яго.

* * *

Нават праўда з часам сівее.

* * *

Сакавітыя ўспаміны ўзмацняе сучаснасць.

* * *

Белавежская пушча
без векавых дубоў, бы беззубая
міс свету — краса шчарбатая.

**БАРЫС РУСКО**





Мал. А. Гуцола

# УІК-ЭНД З ДЭПУТАТАМ

Мамкін вярнуўся з работы ў прыўзнятым настроі. Ледзь пераступіўшы парог чмокнуў у шчаку жонку, што тую вельмі здзівіла і ўразіла, бо калі яшчэ такое было, а потым ляпнуў у далоні і бадзёра паведаміў:

— Ніnуля, у нас госці. З самой сталіцы. Аднакурснік. Ён цяпер займае пасаду — уго-о! У самім парламенце сядзіць! Сам Грыб з ім ручкаецца. Прозвішча — Бурчалкін. Гаворыць яно табе аб чым-небудзь?

Жонка, трымаючыся далонькай за тое месца, куды яе чмокнуў муж, нясмела крутнула галавой:

— Не-е, першы раз чую.

— Нічога, нічога, праз гадзіну ты пазнаёмішся з ім. Спадар Бурчалкін, як прыехаў у камандзіроўку, адразу мне патэлефанаваў: „Мамкін, прывітанне! Мамкін, якія ў цябе праблемы існуюць? Абдумай, — кажа, — ёсць пару гадзін, сустрэнемся. Цягнуць у рэстараны, ледзь адбіўся: маўляў, аднакурснік на уік-энд запрасіў, так што... прабачце, спадары і спадарыні. Мамкін чакае". Дык ты, Нінуля, пакуль я збегаю ў гастраном, таго-сяго прыхаплю, рыхтуй стол і думай, чым нам можа дапамагчы спадар Бурчалкін. Ну, дзе грошы?.. Давай-давай!

Нінуля, ледзь стрымліваючы хваляванне, мітуслівa дастала з тайнічка грошы, адлічыла неабходную суму, працягнула мужу:

— Глядзі, абавязкова каньяк купі. Самы лепшы. І далікатэсаў якіх-небудзь прыхапі. Усё ж — з парламента... І не бойся. А то раптам заявіцца госць, а я і не ведаю, пра што з ім гаварыць.

...За вуглом дома Мамкіна чакаў Бурчалкін:

— Ну як? — адразу ж прасвідраваў ён вачамі Мамкіна.

— Парадак! — пераведшы дых, выціснуў з сябе Мамкін. — Разыграна ўсё, як па нотах. Пабеглі ў гастраном. Глядзі ж, вядзі сябе прыстойна... на ўзроўні дэпутата. Пра палітыку больш сып, пра палітыку... Мая Нінуля не вельмі ў ёй. Грыба не ганьбі. Пазьняка можаш мацюкнуць... Для прыліку. І абяцай! Залатыя горы і адпачынак на Маямі. Ну, а заўтра, Бурчалкін, я ў цябе буду госцем са сталіцы. З парламента.

І дружбакі пашыбавалі ў гастраном.

**ВАСІЛЬ ТКАЧОЎ**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Маэстра, вы вычароўваеце цудоўныя колеры на сваіх карцінах. Эх, каб была магчымасць узяць іх крыху дадому...

— Вам гэта ўдалося. Вы селі на маю палітру.

* * *

— Афіцыянт! Ці ў вашым рэстаране ўсе госці мусяць плаціць рахунак перад спажываннем?

— Не ўсе, а толькі тыя, якія заказваюць грыбныя стравы.

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі, якія нядаўна атрымалі вадзіцельскія правы:

— Знаеш, Верачка, я заплаціла першы штраф.

— За што?

— Пяцьдзесятку перасягнула...

— То цяпер і за ўзрост штрафуюць?

* * *

— Што павінен ведаць студэнт, які приступае да экзаменаў?

— Усё.

— А што павінен ведаць асістэнт?

— Тое, што студэнт.

— А што павінен ведаць ад'юнкт?

— Павінен разбірацца, у якіх падручніках напісана тое, што павінен ведаць студэнт.

— А дацэнт?

— Дзе знаходзяцца гэты падручнікі.

— А што павінен ведаць прафесар?

— Дзе знаходзіцца дацэнт.

* * *

— З'еў бы я добры абед, — гаворыць госць афіцыянту.

— Ёсць толькі бігас. Што вам падаць?

* * *

— Ці чуў ты, што ў Расеі рыхтуецца другая рэвалюцыя?

— А чаго яны хочуць?

— Каб не было багатых.

— Што за зменлівы народ! Не так даўно хацелі, каб не было бедных.

* * *

Галодны бядняк уваходзіць у рэстаран і заказвае абед. Пасля яды падыходзіць да яго афіцыянт з рахункам. Пенсіянер пытае:

— Выбачайце, ці не ведаеце, які будзе штраф за разбой на пажылым мужчыне?

— Дакладна не ведаю, але думаю, што каля мільёна.

— А колькі мне плаціць за гэты абед?

— Дзвесце тысяч.

— Не маю грошай. Прашу тады мяне пабіць і здаць васемсот тысяч рэшты.

* * *

— Чаму ў рыбы няма ні рук, ні ног?

— Як гэта чаму? Пры такой вільготнасці яны б страшэнна пакутавалі ад рэўматызма.

* * *

— За гадзіну язды верхам плаціце авансам.

— Чаму? Баіцеся, што вярнуся без каня?

— Не. Баюся, што конь вернецца без вас.

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**



Мал. Л. Разладава

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

## ВЯДЗЬМАРКІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### ВЯДЗЬМАРКА-МАРАЗІЛЬШЧЫЦА

Гэтая дзіўная гісторыя здарылася ў Оршы — найбуйнейшым чыгуначным цэнтры краіны, пераваланчай базе каланіяльнай садавіны на яе шляху з Польшчы ў Расею.

Вулічны гандляр бананамі, нехта З., падчас сваёй працы неяк пазнаёміўся з прывабнай паненкай. З. ад пачатку заінтрыгаваў дзяўчыну, параўнаўшы габарыты сваіх мужчынскіх вартасцяў з тым наборам, які купляла паненка — вялікім эквадорскім бананам і двума какосавымі арэхамі. Паненка, не разгубіўшыся, запэўніла, што будзе не супраць увечары запхнуць ягоны тавар у сваю торбу, тым больш, сказала паненка, што не ўпершыню спажывае такую экзатычную садавіну.

З таго дня так і павялося — пасля працы гандляр З. заўсёды спяшаўся да паненкі са сваімі раслiннымі прыладамі. Удзячная паненка да раніцы бавілася з крамяным бананам і бухматымі арэхамі, сёрбаючы малачко.

Але праз нейкі час здарылася бяда: дзяўчыне стала кепска пасля чарговай порцыі трапічнай садавіны. З., прыйшоўшы назаўтра, даведаўся, што ягоная сталая кліентка памерла. Ускрыццё паказала наяўнасць у яе страўніку трупнай атруты. Але самае дзіўнае — яе труп нечакана знік з морга.

Гандляр З., хоць і спаў, як і раней, моцна, але прачынаўся знясіленым. Аднойчы зраніцы гандляр убачыў, што ягоны чэляс счарнеў. Дактары са здзіўленнем адзначылі, што гэта — адмаражэнне. Пасля такога дыягназу З. западозрыў нядобрае... Прыкінуўшыся, што спіць, ён з напаўрасплюшчанымі вачыма ляжаў у ложку. Апоўначы ў ягонай спачывальні з'явілася пакрытая зялёнымі трупнымі плямамі і шэранню нябожчыца, у якой зляканы гандляр экзатычнай садавінаю пазнаў сваю нядаўнюю палюбоўніцу. Пазабаўляўшыся ягоным абмарожаным бананам, яна пакінула кватэру; але З. знайшоў у сабе моц прасачыць яе далейшы шлях. Нябожчыца скіравалася да морга і знікла ў адной з маразільных камер.

З., збегаўшы ў міліцэйскі пастарунак, прывёў з сабою міліцыянтаў, якія, адчыніўшы маразілку морга, высвятлілі наступнае: нябожчыца, абкладзеная, нібыта пахавальнымі вянкамі, гронкамі бананаў, сціскала ў руках два вялізныя бухматыя какосавыя арэхі.

І калі начным шпацыроўкам нежывой паненкі не было матэрыялістычнага тлумачэння, то знаходжанню ў маразільніку трупярні вялікай партыі бананаў яно знайшлося: заходнія камерсанты па злачыннай змове з дырэктарам морга захоўвалі ў непрыстасаваных умовах свой трапічны тавар...

Вось чаму на бананах, якія прадаюць у гарадах Беларусі, можна ўбачыць чорныя трупныя плямы...

*(працяг будзе)*
Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС І МАРЦІН ЮР**